„BALTGUDŽIŲ VĖLIAVA“

# БЕЛАРУСКІ СЬЦЯГ

ШТОМЕСЯЧНІК

## № 1.

КРАСАВІК — ТРАВЕНЬ.

ГОД І. 1922.

# ЗЬМЕСТ № 1.

Стр.

Ад Рэдакцыі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 1.

Чатыры гады (1918—25. III.– 1922) — *А. Галынец* . . 3.

Беларусь перад Генуэзкай конфэрэнцыяй — *А. Ц.* . . 10.

Праваслаўная царква на Беларусі—*Вячаслау Сьвятагор.* 13.

„Наперад!“... верш *Власта* . . . . . . . . . . . . 18.

Алесь Гарун (А. Прушынскі) ўспамін *А. А-ка* . . . . 19.

Дэклярацыя Ураду Б. Н. Р. на чацьвертую гадаўшчыну абвешчаньня незалежнасьці Беларусі . . . . . 22.

Мэморандум Ураду Б. Н. Р. конфэрэнцыі дзержаў ў Генуі 24.

Пісьмо Патрыарха Тіхона . . . . . . . . . . . . 27.

Агляд прэссы: Чэская прэсса. „Rzeczpospolita“ аб сваіх крэсах. „Звезда“ аб беларусах Віленшчыны. Губэрнатара назначылі! Ген. Брусілаў аб заслугах бальшавікоў. Расшырэньне фэдэратыўных правоў? . . . . . . . 28.

Ілюстрацыя: Печатка полацкага князя Глеба з прототыпам пагоні . . . . . . . . . . . 21.

Redaktorius-leidejas **K. Duž-Dušauskas.** Рэдактар-выдавец **К. Дуж-Душэўскі.**

„Baltgudžių Vielava“

# БЕЛАРУСКІ СЬЦЯГ

ШТОМЕСЯЧНІК.

**Кошт падпіскі ўсюды:**
на 10 №№ ўпярод — 220 мар.
на 5 №№ „ — 120 мар.
Аддзельны № — — 25 мар.

**Аселасьць**
Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**Lithuanie. Kaunas.**
Senatorių g-vė, 8.

**Кошт абвестак:**
За цэлую старонку — 1000 мар.
За 1/2 старонкі — — 600 мар.
За 1/4 старонкі — — 350 мар.

| Год 1-шы. | Красавік 1922 г. | № 1. |
|---|---|---|

Назова нашае часопісі — „Беларускі Сьцяг“ — да пэўнай меры сьведчыць аб яе агульным характары і мэтах. Мэты нашы ясны і просты:

абарона незалежнае беларускае дзержаўнасьці, як вышэйшай праявы вызвольчага руху і

абарона цэльнасьці і непадзельнасьці роднай зямлі, як грунтоўнай астоі, як адзінага апраўданьня нашае спакойнае і сьветлае будучыны.

Цьвёрда акрэсьляючы гэты галоўныя мэты, якім часопісь наша будзе служыць, рэдакцыя аднак ня лічыць патрэбным абмежаць круг тэм, якім яна адкрые страніцы часопісі: усё, што ёсьць цікавага і годнага ўвагі ў беларускім жыцьці — знойдзе ў „Беларускім Сьцягу“ сваё мейсца.

Але пры гэтым адна ўвага. Рэдакцыя пераконана, што апошнія гады прынясьлі пэўную зьмену ў характары беларускага руху. У шырокіх колах грамадзянства можна заўважыць нейкую нехаць, антыпатыю да агульных мейсц і фраз, якіх натуральна не была пазбаўлена адраджэнская праца дацяперашняга часу. Сёньня мы углядаем адваротнае зьявішча — тугу за сьцíслымі, рэальнымі пытаньнямі і імкненьня да канкрэтных рашэньняў. Поступ руху перарос старыя навычкі даводзіць, што Беларусь мае права жыць пад сонцам і жаліцца на сваю нядолю.

Мы вітаем гэтую добрую праяву — сьведку ўзросту грамадзкай сьвядомасьці і будзем дбаць аб яе узмацненьні. Даволі ламіцца ў ад-



крытыя дзьверы, даволі пеяць песьні суму і жалю. Трэба шукаць новыя шляхі, трэба знайходзіць новыя слóвы, трэба тварыць новыя настроі. Вайна і рэвалюцыя, нашы цярпеньня і барацьба ў іх, перэканалі здаецца ўсіх, што беларускі народ ня толькі мае права на роўнае мейсца сярод суседзяў, але мае ахвоту і волю бараніць гэтае права сваей сілай. Хіба сьляпыя не перэканаліся ў гэтым.

Умацаваньне волі да змаганьня шляхам усьвядомленьня ўсіх старон беларускага жыцьця, шляхам крытычнай дыфэрэнцыацыі апініі, і, сьветаглядаў, точнай пастаноўкі і точнага адказу на запытаньня часу — вось як разумее рэдакцыя заданьне часопісі, як грамадзкага органу.

Абаўсім гэтым ня можна гаварыць на Бацькаўшчыне, пад цяжкім ботам чужацкай салдатчыны. Ня можна гаварыць аб гэтым на роднай зямлі, якая захоплена цяпер бруднымі рукамі наездчыкаў, што „апякуюцца“ намі цікуючы свае грубыя карысьці і свой зыск. Дык будзем вольна гаварыць аб гэтым на чужыне, па за межамі Бацькаўшчыны.

Рэдакцыя сьвядома ўсіх труднасьцяў і перашкод, якія чакаюць яе часопісь... Адарванасьць ад роднае глебы, перэшкаджаючая безпасярэднай сувязі з надзеямі і болямі народу, разшматанасьць культурных сіл, што гібеюць пад гнётам найгоршай — духовай — прынукі; ўрэшце — благія матэрыяльныя варункі працы, не забаспечаючыя заўтрашняга дня — вось што стаіць на нашым шляху.

Але падняцца на працу трэба. Час дасьпеў і трэба даць тое, што вымагае ад нас служэньне беларускай ідэі. Хоць і на чужыне, хоць і з малымі сіламі, хоць і без адпаведных коштаў, але Рэдакцыя падыймае „Беларускі Сьцяг“, як эмблему нацыянальнай моцы, эмблему еднаньня і веры ў добрую будучыну.

Рэдакцыя.

# ЧАТЫРЫ ГАДЫ

## 1918 — 25. III. — 1922

Чатыры гады — ў палітычным жыцьці Беларусі тэрмін не малы. Калі прыняць пад увагу, што наша бацькаўшчына прыняла актыўны удзел у палітычным змаганьні за сваё істнаваньня толькі з моманту падзеньня старога расійскага ладу, г. зн. з 1917 г., дык акажацца, што час, прайшоўшы ад даты выданьня акту аб незалежнасьці Беларусі, абнімае сабой амаль увесь пэрыод істнаваньня яе як асобнай нацыянальна дзержаўнай адзінкі. За гэты пэрыод павінны былі-б выявіцца аснаўныя тэндэнцыі нашага палітычнага жыцьця, павінны былі-б зазначыцца галоўнейшыя прынцыпы руху, як явішча дзержаўнавызвольчага, на аснове якіх прынцыпаў мы маглі бы рабіць пэўныя прагнозы на будучыну.

І запраўды: за мінулыя чатыры гады гэткія тэндэнцыі і праявы можна зусім акрэсьляна зазначыць. Акрэсьляньне іх з'яўляецца нам пякуча патрэбным як з пункту гледжаньня гісторыі руху, так і ў зьвязку з інтэрасамі бягучай палітычнай працы.

Каб правільна падыйсьці да цікавячай нас тэмы, спынімая ў першы чарод на гісторыі акту 25 скакавіка, яго агульным характары і значэньні. Успомнім як гэта было.

На Усебеларускім Зьездзе думка аб незалежнасьці Беларусі ня мела сусьпеху: агульна лунала па ўсіх сходах і камісыях толькі формула „фэдаратыўнай Расіі", пры чым Беларусь мысьлілася як частка яе. Прынцып фэдарацыі мала каму быў ведам, але спрэчацца з ім, значыла наражацца на непрыемнасьці. Незнайства фэдэратыўнай сыстэмы было нагэтулькі вялікае, што прапазыцыя назваць Беларусь Рэспублікай, хоць бы і ў складзе Расійскай фэдарацыі, выклікала сярод дэпутатаў абураньня, супярэчкі і варожыя адносіны. Трэба адзначыць, што супраць гэтае прапазыцыі найбольш былі настрояны прадстаўнікі валасных земстваў, вёскі і наагул селянскія дэпутаты, палітычна мала сьвядомыя і знайходзіўшыяся пад уплывам расійскіх с.-эраў. Што датычэ прэдстаўнікоў ад войска, дык яны, як больш маладыя, сьвядомыя і рэвалюцыйныя, супроць формулы „Беларуская Рэспубліка" нічога ня мелі, а некаторыя групы сярод іх зусім ясна вычувалі думку аб дзержаўнай незалежнасьці Беларусі. Усё-ж большасьць гэтага кроку баялася, баялася, каб падобным крокам не пашкодзіць „адзінаму фронту расійскай рэвалюцыі".

Дзеля гэтага трэба было ўжыць назвычайных высілкаў, каб пагадзіць усе групы і апрацаваць супрыймый для ўсіх кампраміс. Падобны кампраміс знайшлі ў формуле „устанаўленьня рэспубліканскага ладу на беларускай зямлі". Хоць у гэтай формуле ў зьвязку з далейшымі пастановамі і была ўжыта думка аб Беларускай Рэспубліцы, але сваім найменьням гэтае паняцьця не было названа і таму яго прынялі.

Разкрыць скобкі „рэспубліканскага ладу" і паставіць пункт над „і" прыйшлося ўжо Выканаўчаму Камітэту Зьезду. За два тыдні да дня незалежнасьці, а ласьне, 9 сакавіка 1918 г. была, як ведама, выдана Другая Устаўная Грамата, ў якой была абвешчана „Беларуская Народная Рэспубліка". Дзеля таго, што зьвязь з фэдаратыўнай Расіяй гэтым актам захоўвалася, яго трэба разгля-

даць толькі як сваей адмены комэнтарый да пастановы зьезду, як лёгічнае зацьверджаньне конституцыі, якую зьезд даў ў агульных і нясьмелых контурах. Так ласьне разумелі гэты закон прадстаўнікі земства і гарадоў, а таксама прадстаўнікі нацыанальных меншасьцяў. Усе яны уходзілі ў склад Выканаўчага Камітэту і пасьля акту 9 сакавіка ўвайшлі ў склад новаўтворанай Рады Рэспублікі. У стасунку да цэнтральнай ўлады Часоваго Ураду, як наагул да дэмакратычнай Расіі, гэтым групам трэба было захаваць у сваей палітычнай дзейнасьці на Беларусі аблічча „законнасьці“.

Запраўды, акт 9 сакавіка ў пэўным разуменьні гэтага слова зьяўляўся „законным“. Ен зьяўляўся працягам нацыанальнага самаазначаньня Беларусі, галоўнай праявай якой быў і Усебеларускі Зьезд, самаазначаньня, якое дазвалялася ў рамках расійскай фэдарацыі. Толькі да гэтага рубу, па іх думцы, мог сягаць беларускі вызвольчы рух. Вышэйшай установай, поўным гаспадаром „усяе Расіі“ было „Всероссійское Учредительное Собраніе“ як спадкаберца ўлады расійскіх манархаў. Предстаўнікі земстваў і гарадоў, як і нацыанальныя меншасьці, верныя няпісанаму с.-р‘скаму закону аб прэрогатывах „Учредительного Собранія“, не маглі і думаць, каб выступіць супроць гэтых прэрогатыў. Дзеля гэтага Усебеларускі Зьезд разглядаўся як праява арганізацыі месцовых сіл, асабліва патрэбная ў зьвязку з пагрозай захвату Беларусі немцамі і хітаньняся пад націскам камуністычнай партыі самога цэнтру.

Пасьля таго, як матрос Жэлезьняк разагнаў Учред. Сабраньне і пасьля таго, як у Бярэсьцю была падпісана 3 сакавіка нямецка-бальшавіцкая умова, стымул „законнасьці“ палітычных актаў паасобных краёў, у тым ліку Беларусі, павінен быў адпасьці: вярхоўнага гаспадара больш не было, а фактычная ўлада перайшла да партыі, што лічылася толькі з сілай і абвесьціла „законнасьць“ грамадзкай вайны. Другая Устаўная Грамата, дзеля гэтага, магла-б парваць зьвяз Беларускай Народнай Рэспублікі з расійскай дзержавай. Аднак яна гэтага не зрабіла. Адпаведныя словы ўперша прагучэлі ў акце аб незалежнасьці 25 сакавіка.

Акт 25 сакавіка застае нас акурат ў гэты момант — развалу праўнаюрыдычнай сыстэмы расійскай ўлады, ў час панаваньня партыі, прызнаўшай правы народаў быўшай Расіі на самаазначаньне — „ўсутыч да аддзяленьняся“. Натуральна было-б чакаць, што закон 25 сакавіка перш за ўсё зробіць ссылку на гэтыя факты і гэтым самым зробіць спробу якбы апраўдаць свае паяўленьне. Аднак ніводнага слова аб гэтым мы не знайходзім: чытаем толькі аб тым, што „расійскі царызм, душыўшый Беларусь і ўкінуўшый яе ў пажар вайны скінут“, і аб тым, што „чужы для Беларусі Урад, на аснове старых дзержаўных зьвязей, падпісаў Берасьцейскі трактат, забіваючый на сьмерць беларускі народ“. Пасьля гэтых сказаў, маючых агітацыйны і гістарычны характар, Грамата абвешчае аб „разрыве дзержаўных зьвязей Беларусі з Расіяй“.

Гэткім чынам мы бачым толькі ссылку на адбыўшыйся факт і на практычную патрэбу бараніць Беларусь ад падзелу. „Права“ на незалежнасьць разумеецца само сабой, а абвешчаньня незалежнасьці — разглядаецца як пытаньня часу, як фактычная магчымасьць, якой карыстаюцца як толькі яна паўстае.

Дзеля таго, што акт 25 сакавіка не шукае для сябе апраўданьня, што ён сваім зьместам зацьверджае правечнае права народаў Беларусі на волю — акт гэты зьяўляецца актам рэвалюцыйным. Будучы сьвядом нацыанальнай асобнасьці беларускага народу, якая асобнасьць больш за ўсё іншае дае права будаваць ўласную дзержаву, адчуваючы ў той самы час патрэбу змагацца супроць падзелу Беларусі, які праводзіў бальшавіцкі урад — Рада Рэспублікі абвесьціла разрыў з Расіяй.

Рэвалюцыйны характар акту 25 сакавіка павялічаецца ў значнай меры таму, што ён быў выдан органам, як звыкла гаварыць „неправамочным“ гэта рабіць. Разам з закідам ў „незаконнасьці“, прэдстаўнікі земска-гарадзкой групы, ласьне, зьвярталі ўвагу ўсіх радных, што калі аб незалежнасьці Беларусі і можна было-б гаварыць, дык толькі ў Беларускім Устаноўчым Сойме, ці ў другім адпаведным прэдстаўнічым органе беларускага народу.

Аргумант ў пэўных варунках не пазбаўляны слушнасьці, але ў істоце рэчы нічога ня зьменяючый. Запраўды, ні Усебеларускі Зьезд, ні Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (першага складу) не маглі лічыцца правільна абранымі прэдстаўнічымі органамі Беларусі. Але ў час абвешчаньня незалежнасьці, Рада Рэспублікі была **адзінным** прэдстаўнічым органам беларускага народу: усе іншыя арганізацыі на падобную ролю не прэтэндавалі і, ў параўнаньню з Радай, прэтэндаваць не маглі. Яна была фактычна галавой беларускага руху, установай, што складался са ўсіх нацыянальна сьвядомых галін беларускага грамадзянства. Гэтая установа ўзяла сьвядома на сябе адпаведальнасьць за гістарычны крок. Падкрэсьляемо, што маласьць лікам людзей пайшоўшых на гэтулькі надзвычайнай вагі акт, толькі павялічае рэволюцыйнасьць самога акту.

Як і заўсёды, запраўды рэволюцыйны крок не клапаціцьца аб фактычным суадношэньні сіл, але выкідае лёзунг за які баюе да сьмерці. Лёзунг, ці гіне пад навалай контр-рэволюцыйных варажых сіл, ці сьвяткуе сваю перамогу. Перамога бывае найбольш бліскучай тады, калі за лёзунгам ў першыя часіны яго нарадзін стаіць невялічкая група людзей. Чым большая мэта і чым меншая магчымасьць яе асягненьня — тым большы эфэкт гэтага асягненьня.

Усё сказанае ў поўнай меры датыча акту 25 сакавіка. Сучасьнікі памятаюць, як малая лікам, і як вялікая верай і духам была частка Рады, што выносіла рэзалюцыі аб незалежнасьці. Цяжар падыймаўся на плечы аграмадны, страшэнны. Сіл было мала, край маўчаў і мадзеў. Усё жыцьцё Беларусі было скалечана, яна была падзеляна франтамі: заходная частка была заціснута нямецкай акупацыяй, а на ўсходзе панаваў хаос і безладзьдзе.

Як і кожды рэвалюцыйны акт, закон 25 сакавіка быў аддany на суд жыцьця.

---

Першы, хто выступіў супроць абвешчаньня незалежнасьці Белерусі, былі дэлэгаты земстваў і гарадоў і прэдстаўнікі жыдоўскага грамадзянства. Рожнасьць дзержаўна-палітычнай ідэалёгіі, гэтай часткі Рады Рэспублікі ў параўнаньні з ідэалёгіяй беларускіх нацыянальных партый выяўлялася шмат раней, яшчэ ў часе скліканьня Усебеларускага кангрэсу. 25 сакавіка непрымірымасьць іх пазыцій выявілася нагэтулькі яскрава, што памяненная група (за выключэньнем дэлегатаў партыі Поалей-Цion) выйшлі са складу Рады Рэспублікі. Паміж абодвымі лагерамі пачалася адкрытая барадзьба.

Як было заўважана вышэй, галоўным аргумантам ў барадзьбе з боку земцаў і прэдстаўнікоў гарадоў было абвінавачаньня Рады у „незаконнасьці“ яе кроку. Хоць Учредительного Собранія ужо не было, постуляты эс-эраўскай расійскай праграмы аднак жылі ў умох. Па іх думцы дэкрэтаваньня разагнаным Учредительнымъ Собраніемъ расійскай фэдаратыўнай рэспублікі захоўвало сваё значэньне; ніхто ня меў права йсьці супроць гэтай пастановы. Апроч таго гэтая група ўжывала і другіх аргумантаў: яна казала, што абвешчаньне незалежнасьці пасварыць Беларусь і беларускі рух з Расіяй, што яно зробіць расійскую рэвалюцыйную дэмократыю ворагам самога беларускага пытаньня, што падобны крок ёсьць удар ў сьпіну рэвалюцыі, і што гэта ёсьць зло ня меншае чым баль-

шавізм. Яны пужалі беларускае грамадзянства неўнікнёным эконамічным занепадам Беларусі, калі яна адмовіцца ад сваіх зьвязей з Расіяй, што сэпаратыя ад Расіі неўнікнёна прывядзе Беларусь ў абоймы палякаў і немцаў, што народ беларускі ня толькі не пагодзіцца з гэтай пастановай, але пракляне яе і г. д. Не сароміліся адкрыта гаварыць, што рашэньне абвесьціць незалежнасьць Беларусі падсказана польскімі панамі, ці нямецкімі генераламі, што наагул справа беларускай незалежнасьці ёсьць вынік чужаземнай варожай інтрыгі і т. п.

Актуальнай праграмай гэтай групы было — захаваньня зьвязі з фэдаратыўнай дэмакратычнай Расіяй і супольная барацьба супроць бальшавікоў. Шмат хто з прэдстаўнікоў земств, гарадоў і нацыанальных меншасьцяў не вызнавалі асобнасьці і самаістасьці беларускага народу, як нацыанальнага цэлага, не вызнавалі беларускай мовы і культуры і на гэтай аснове не гадзіліся нават з думкай аб дзержаўнай незалежнасьці Беларусі. Большасьць з іх належала да партыі расійскіх с.-р., якая лічыла, што расійская фэдарацыя павінна зьдзейсьніцца не ад перыфэрыі да цэнтра, а ўпрост з цэнтра.

Барацьба Рады Рэспублікі з памяненымі групамі была вельмі цяжкая. Расійскія с.-р. ў той час мелі за сабой большасьць сярэдняй інтэлігенцыі на Беларусі і амаль манапольна панавалі ў вёсцы, дзякуючы г. зв. „керенскім“ выбарам і значным матэр‘альным засабам. Барацьба была тым цяжэйшая, што супроць Рады йшлі палякі, якія заўсёды вялі прапаганду польскасьці і ўхіляліся ад супрацоўніцтва з беларусамі. Можна сьмела сказаць, што на старане групы Рады, праголасіўшай незалежнасьць Беларусі, стаяла толькі адна сіла — сіла правай ідэі.

І што-ж мы бачым? Мы бачым, што праз пару гадоў (у 1920 г. гэта ўжо зусім ясна зазначылася) ідэалёгія земска-гарадзкой групы, ці інакш сказаць беларуска-расійская фэдэралістычная ідэалёгія, была разшматана. Партыя с.-р. аказалася задаўлянай, надзеі на дэмакратычную расійскую фэдарацыю былі утрачаны. Большасьць дзеячоў пры камуністычным ладзе на Беларусі перайшла на нелегальнае становішча і пачала вызнаваць лёзунгі беларускай незалежнасьці.

Дзеячы быўшай земска-гарадзкой групы імкнуцца тлумачыць сваю згоду з праграмай незалежнасьці Беларусі чыста-тактоўнымі мяркаваньнямі. Як прыклад яны даводзяць, што лёзунг незалежнасьці Беларусі вызнаецца імі таму, што гэта дае ім магчымасьць з найбольшым сусьпехам вясьці барацьбу з камуністычнай партыяй; што гэтая плятформа робіць іх менш уязьвімымі пры польскай аккупацыі. Вызнаньне незалежнасьці, як бы афарбовуе іх ў абаронную барву. Есьць і другое, больш прынцыповае тлумачэньня гэтага зруху. Вызнаньне незалежнасьці Беларусі прыймаецца як этап на шляху будучай фэдарацыі. Пры гэтым незалежнасьць вызнаецца якбы варункова — мы вызнаем незалежнасьць Беларусі, але заразам наўзмечаем, што вольная і незалежная Беларусь неўнікнёна прыйдзе (павінна прыйсьці) да фэдарацыі са ўсей Расіяй.

Аб‘ектыўна кажучы, падобныя спробы апраўдаць зьмену паглядаў менш за ўсё значуць у нашым пытаньні. Падобныя спробы — гэта прывычка струся хаваць сваю галаву ў пясок і думаць, што ўсяго цела не відаць.

Што да будучай фэдарацыі вольных народаў Усходу Эўропы, дык гэтая магчымасьць заўсёды стаяла і будзе стаяць як актыўнае пытаньне іх ўсіх, ў тым ліку і Беларусі. Для нас неважна, што будзе рабіць незалежная Беларусь; нам важна, каб незалежная Беларусь была створана і была прызнана. А у гісторыі барацьбы за гэтую незалежнасьць для нас мае вагу сам факт, што ідэя незалежнасьці перамагла, што яна аказалася больш жыцьцёвай, больш рэальнай. Што яна больш за ўсё адпаведае гістарычным, палітычным, нацыанальным і ўселякім іншым варункам, ў якіх жыве Беларусь.

З якіх бы то ні было мяркаваньняў — прынцыповых ці тактычных, — але БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКАЯ ФЭДАРАЛІСТЫЧНАЯ ІДЭАЛЁГІЯ КАПІТУЛЯВАЛА ПРАД ІДЭАЛЁГІЯЙ НЕЗАЛЕЖНІЦКАЙ.

Калі перамога ідэі незалежнасьці Беларусі над праграмай фэдарацыі з Расіяй стала не зусім яшчэ ачавістай,—была зробляна другая па чародзе спроба адмовіцца ад яе, звальчыць яе. На гэты раз плян барацьбы з актам 25 сакавіка быў апрацаваны не рукамі чужых, а рукамі сваіх-жа. Ня ўсьціг пятух прапеяць тры разы — як слабыя духам адмовіліся ад служэньня ідэалам незалежнасьці. Мы гаворым аб вядомых спробах утварэньня „Рады Найвышэйшай“ і іх імкненьняў пайсьці на згоду з Польшчай. На гэты раз замест праграмы беларуска-расійскай фэдарацыі была высунута праграма беларуска-польскага еднаньня. Тая група, што паднялася супроць акту аб незалежнасьці Беларусі вызнавала тыя-ж самыя погляды на беларускую незалежнасьць, што і група земска-гарадзкая, толькі вочы яе былі скіраваны ў другі бок. Яны казалі: незалежнасьць Беларусі — адна мана. Беларусь ня можа быць незалежнай — ў яе німа для таго ніякіх засабаў. Незалежнасьць Беларусі — гэта шкодны міраж, гэта забаўка для неразумных дзяцей. Трэба быць рэальнымі палітыкамі, трэба будаваць тое, што забудаваць магчыма. Трэба еднацца з Польшчай.

Чаму трэба было Беларусі еднацца з Польшчай, а не з Расіяй, гэта адэпты рэальнай палітыкі імкнуліся даказаць з найбольшай глыбінёй і пераконаньнем. Польшча — старана заходнай культуры, праваднік эўрапэйскай цывілізацыі на Усходзе. Нам прыстала йсьці толькі з культурным Захадам. Польшча толерантна ставіцца да беларускага нацыанальнага адраджэньня, яна нават зацікаўлена ў ім; доказам таго служаць польска-беларускія адносіны ў прошласьці і об'ектыўны аналіз сучаснасьці. Польшча заўсёды будзе падтрымліваць беларускі рух, бо адраджоная Беларусь лепшая абарона яе самой ад „навалы са Усходу“. Процілежнасьцьці польскай і беларускай культуры не ў параўнаньню большыя, чым процілежнасьці беларуска-расійскія, што спрыяе развіцьцю беларускай культуры і забаспечае яе ад староньніх уплываў.

Аргуманты былі вельмі сур'ёзныя і на аснове гэтых аргумантаў вера ў Польшчу была цьвёрдая.

Што да форм еднаньна, дык група найвышэйшых рэалістаў пайшла далей расійскіх фэдаралістаў: максімум магчымасьцеў для Беларусі яна ўбачала ў аўтаноміі Беларусі ў складзе адзінай і непадзельнай Рэчы Паспалітай. Зразумела, што фэдарацыя гэтых двох дзержаўных адзінак, аб чым за год перад тым пісалі амаль ўсе польскія часопісі была-б для іх больш пажадана. Але прыймаючы пад увагу нічым ня скрытую іронію ў стасунку да падобнай фэдарацыі, якую пачалі праяўляць быўшыя яе у польскім абозе, абаронцы і прыймаючы пад увагу „рэальныя суадносіны сіл“ абедзьвех старон, прыйшлося згадзіцца на культурна-нацыанальную аўтаномію. „Лепш сініца ў рукі, чым журавель ў небе“ — вось які лёзунг быў выкінуты два гады таму назад.

Мы бачым цяпер, якая „сініца ў рукі“ дасталася гэтай рэальнай палітыцы. Мора сьлёз: нявінных ахвяр; аграбаваныя каапэратывы, разгромленыя школы і прытулкі: „Kulka w łeb“ — за чытаньне беларускіх газэт, бацькі са зьбітымі тварамі і дзеці са скалечанымі душамі — вось што дала Польшча аўтаномнай Беларусі. Крык народу, якога душаць на сьмерць, заглушыў галасы нідаўных адэптаў, абурыў іх сумленьня і прымусіў іх адрачыся і ад сваей веры і ад сваей праграмы. Праграма беларуска-польскага еднаньня ходам жыцьця была разьбіта ў шчэнт. Крушэньне яе было ва многа раз бліскучэй, чым крушэньне беларуска-расійскай фэдаралістычнай праграмы. У

выніку гэтага чароднага крушэньня з падвойнай сілай засьвяціліся заветы акту 25 сакавіка аб незалежнасьці Беларусі. Толькі ў іх быў знайдзен выхад, толькі яны падавалі надзеі.

Ня ў суд і ня дзеля асуджэньня каго-б то ні было ўспамінаем мы аб гэтым сумным, і трагічным моманце беларускага жыцьця, а адзіна ў інтэрасах агульнай для ўсіх і дарагой ўсім праўды. Нам важна акрэсьліць правільна шлях беларускага адраджэньня і толькі з гэтай мэтай мы адзначаем этапы і вехі, якімі ён ішоў і якімі павіненісьці. Тое, што перажыта, асабліва тая спроба беларуска-польскага еднаньня, якая была зроблена — павінна была быць, павінна была быць зробленай. Польшча надзвычай важны фактар ў гісторыі Беларусі, каб спробу ўсталеньня адносін да яе можна было абмінуць.

З другога боку — мы сьвядома пакідаем без адказу пытаньня — чаму ўсё так сталася. Чаму ідэі беларуска-расійскай фэдарацыі і ідэя беларуска-польскага еднаньня капітулявалі прад ідэяй незалежнасьці Беларусі. Падкрэсьляем, што мы сьвядома пакідаем без адказу гэтае вельмы важнае пытаньне. Яму мы лічым патрэбным пасьвяціць спэцыальны артыкул.

Сёньня, 25 сакавіка 1922 г. прад намі ляжыць яшчэ адна нераскрытая страніца. Загаловак яе: „Савецкая Беларусь“. Гісторыю стварэньня гэтае храміны мы добра ведаем. Створана яна чужымі, не беларускімі рукамі, і таму на ей ляжыць спэцыфічная печаць штучнасьці, няшчырасьці і фарызэйства. Прымірыць яе са ўсім папярэднім беларускім рухам, думаць, што ей заканчаюцца імкненьня нашага рэнэсансу — па меншай меры наіўнасьць.

Створана яна не беларускімі рукамі і менш за ўсё служыць інтэрасам беларускага народу. У аснове сваей невыразная храміна „Савецкай Беларусі“ сьпіраецца на той самы грунт, на якім стаяла земска-гарадзкая група. У аснове яе ляжыць усё тая-ж беларуска-расійская фэдарацыя, якая станавіла мэту ўсіх расійска-эс-эраўскіх груп на Беларусі. Па істоце рэчы перэканацца ў выгаднасьці і патрэбнасьці гэткай „фэдарацыі“, гаданай раней абвешчаньня незалежнасьці, можа толькі адна старана — беларуская. Праціўнай старане выгаднасьць і патрэбнасьць „фэдэрацыі“ ясна была наперад, калі дэкрат аб Савецкай Беларусі быў па дарозе з Масквы да Менска. І мы пэўны, што беларусь ў гэтай выгаднасьці і патрэбнасьці ужо перэканалася.

Пакідаючы ў старане далейшыя разважаньні аб сучаснай істоце гэтае храміны, мы хочам зазначыць у стасунку да яе толькі два палажэньня. Першае, што жывіцельны акт 25 сакавіка зьявіўся адным з галоўнейшых фактараў зьяўленьня на сьвет гэтае храміны і, другое, што гэтая храміна раней ці пазьней, але ўступіць свае мейсца жывому жыцьцю. Абрываючы у прагнозе сваім гэтую невыразную страніцу — мы углядаем на чароднай страніцы кнігі Беларусі ўсё тыя-ж агнявыя словы: „Беларусь абвешчаецца дзержавай вольнай і ні ад каго незалежнай“.

*

На пачатку пятага году з дня абвешчаньня незазежнасьці Беларусі, нашая Бацькаўшчына апынулася ў зусім аднальковых варунках. Як і тагды яна не мае уласнай ўлады на роднай зямлі, як і тагды на яе абшарах пануе жах акупанцкага ладу і стогне народ ад чужацкага зьдзеку. Рожніца толькі ў тым, што немцаў зьмянілі палякі, часовых камісараў — камісары камуністычныя, Брэст-Літоўск замяніла Рыга. На пачатку пятага году барацьбы за незалежнасьць мы можам паставіць сабе пытаньня — як быць далей? Ці ня трэба пераглядзець да сяго моманту нерэалізаваны акт 25 сакавіка, ці ня выпаліць з душы сваей яго заветы, ці ня апусьціць сьцяг беларускай волі?

На гэтае пытаньня мы адказываем са ўсей цьвёрдасьцю, на якую здольны сыны Беларусі — не, ніколі! Праўда, дзякуючы акту 25 сакавіка Беларусь не стала незалежнай дзержавай. Але гэта ня зменшае надзвычайнай, гістарычнай вартасьці гэтага акту, як галоўнейшага закону беларускага вызвольчага руху, ўсяго беларускага адраджэньня. Ён не стаў законам, праведзенным у жыцьцё, але стаў законам беларускага жыцьця. Калі ён ня быў да сяго часу рэалізаваным у аб'ектыўных формах, дык суб'ектыўна ён апанаваў массы і жыве ў народнай сьвядомасьці як імпэратыў што пазбаўлян толькі зьнешняга, фізычнага прымусу. Ён стаў лёзунгам, каля каторага аб'едналіся ўсе сьвядомыя сілы беларускага народу, пад якім ідзе змаганьне на ўсім беларускім абшары. Ён дыстыплінаваў і прыдаў сталую форму ўсяму вызвольчаму руху, што ў сваю чаргу ўплывае на эканомію сіл і стройнасьць арганізацыі.

Шлях, які быў адкрыт у жыцьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году, ёсьць адзіны шлях, які магчым. Чатыры гады, што прайшлі з таго моманту, былі сьведкамі шуканьня новых шляхоў, і сьведкамі таго, як спробы гэтыя канчаліся неўнікнёнай катастрофай. Мінулыя чатыры гады з ачавістай яснасьцю сьцвердзілі грунтоўны пастулят беларускага руху: барацьба за адраджэньне Беларусі ёсьць барацьба за яе незалежнасьць.

Мы стаім, ласьне, на гэтым шляху. Становішча наша цяжкое, — німа аб чым гаварыць, — але яно ў шмат разоў лягчэйшае за тоя, што было чатыры гады таму назад. За час барацьбы мы змацнелі на сілах, мы шмат чаму навучыліся і лепш адрожнім благое ад добрага, менш паддамося ільлюзіям. Край наш хоць і падзеляны і акупаваны, але народ наш ужо ня той. Мы ведаем, што сьвядомасьць масс ўзрасла надзвычайна і што былога мадзеньня ўжо німа. Шырокімі хвалямі ўздымаецца на Белаусі энэргія селянскай грамады — адзінай сілы, з якой не страшна будучына. Мы йдзем з ей.

Вызнаючы поўнасьцю загад дадзеный у акце 25 сакавіка, мы маем сьмеласьць цяпер, пасьля чатырохгадовых горкіх спроб, унесьці да яго толькі адну папраўку: не адмаўляючыся ад дапамогі любячых волю народаў, што прызываліся дапамагчы нам у нашай барацьбе за незалежнасьць, — мы ўсё-ж такі перш за ўсё апіраем свае надзеі на ўласныя сілы.

**А. Галынец.**

---

**Ад Рэдакцыі:** Аб нацыянальна-палітычнай сьвядомасьці учасьнікоў Ўсебеларускага Зьезду істнуюць іншыя погляды, чым высказаныя на пачатку гэтай стацьці аўтарам; дзеля высьвятленьня чаго Рэдакцыей будуць памешчаны у чародных нумэрох „Б. С.“ адносныя артыкулы.

# Беларусь перад Генуэзскай Конфэрэнцыяй.

Конфэрэнцыя дзержаў у Генуі, можа лічыцца аднэй з найважнейшых падзей нашага часу. Усе папярэднія конфэрэнцыі, пачынаючы з Вэрсалю, Сен-Жэрмэна і інш. і канчаючы Вашынгтонам, ня могуць ісьці ў параўнаньне з генуэзскім кангрэсам.

Усе папярэднія конфэрэнцыі мелі сваей мэтай спыненьня стану вайны ў Эўропе, ці, як Вашынгтонская конфэрэнцыя, мелі на мэці зьмяніць палітычную конфігурацыю аднэй з ваяваўшых старон, а за адно зрабіць чародную спробу вырашэньня старой праблемы аб разаружэньні. Конфэрэнцыя ў Генуі мае сваей мэтай ліквідацыю вынікаў вайны і агульнае „замірэньне сьвету“. Для ўсіх цяпер ужо з вочавіднасьцю ясна, што дзякуючы ўсесьветнай вайне Эўропа стаіць перад грознай, жудаснай катастрофай — магчымым развалам усяго сучаснага эканамічна-дзержаўнага ладу. Бліскучая перамога гаспадарствоў Антанты не дала ім жаданага супакою; у яшчэ горшым становішчы знаходзіцца цэнтральная Эўропа, ў першы чарод Нямецкія Краіны, на якія ўзьдзеты цяжкія ланцугі Вэрсальскае умовы. Катастрофа пагражае ўсім — і пераможаным і пераможцам — вось чаму на Конфэрэнцыю ў Генуюю заклікаюцца ўсе дзержавы. Усе, хто фактам свайго істнаваньня прыймае удзел ў палітычным жыцьці Эўропы, — незалежна ад таго, з якім „фронтам“ ён раней быў запісан, — усе запрашаюцца знайходзіць рэцэпт паратунку. Прад агульнай небаспекай парашылі забыцца часова ўчарайшага дзяленьня на „сваіх“ і „чужых“. Таму першы раз за сталом дзержаў мы бачым Нямеччыну.

Аднак цэнтр вагі конфэрэнцыі ня ў гэтым. Цэнтр вагі Конфэрэнцыі ляжыць у тым, што на ей ў першы раз, пасьля Вялікай Вайны, будзе браць рэвалюцыйны сфінкс — Савецкая Расія. Эўропа перэканалася ў тым, што без Савецкай Расіі справа ўстанаўленьня спакойнага ладу на контынэнце немагчыма. Дзякуючы гэтаму, апроч двух старон — дзержаў Антанты і дзержаў былога цэнтральнага саюзу — на Конфэрэнцыі будзе прысутна страна трэцьцяя — Савецкая Расія — адначасова і нэйтральная і варожая абедзьвем першым. Паміж гэтымі трымя лагерамі чакаецца рашучая схватка. — Згода паміж гэтымі трымя старонамі павінна замацаваць лёсы сьвету. Усё іншае, ў тым ліку дзержавы нейтральныя і дзержавы ўзнікшыя скуткам вялікай вайны, — усё гэта будзе толькі прысутным пры схватцы, будзе рабіць антураж якой небудзь з галоўных фігур.

Актуальны момант Генуэзскай Конфэрэнцыі ляжыць у тым, што ўсе тры стараны зацікаўлены адна ў другой і ня могуць упарадкаваць сябе без ўзаемнай дапамогі. Нэгатыўны момант ляжыць у тым, што яны па рожнаму разумеюць свае ўласныя інтэрасы і хочуць выйсьці з свайго дрэннага становішча чужым коштам. Выхад з палажэньня ў гэткім выпадку можа быць знайдзен толькі тады, калі будзе знайдзен „казел одпущеньня“ — г. зн. такая старана, коштам якой будуць зацырваны дзіркі ўсіх другіх. Па ўсім аўспіцыям—ролю падобнага

„казла“ павінна адыграць — Савецкая Расія. Але ці згодзіцца „прадстаўніца працоўных рабочых і селян“ на падобную ролю і ці будзе ў залежнасьці ад гэтага асягнена дасьцігнута мэта Конфэрэнцыі — яшчэ німа ведама.

Значэньне Генуэзкай Конфэрэнцыі ў значнай меры падарвалі Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты, якія, груба кажучы, ня згодзіліся латаць дзіркі Эўропы, а як відаць з ноты Статс-Сэкрэтара Юза ад 9. III. 1922, Амэрыка ўкланілася ад учасьця ў Генуэзкай Конфэрэнцыі дзеля двох галоўных прычын: папершае, што апошняя будзе не эканамічнай, а палітычнай канфэрэнцыяй і падругое, што па думцы Амэрыкі яна ставіць Расію ў палажэньне эксплоатаванай стараны. Жадаюны Эўропе найлепшай працы ў справе эконамічнай адбудовы, Злучаныя Штаты лічаць замлепшае для сябе адыйсьці ў старану і пачакаць. Яны зусім не двузначна заявілі, што „да часу пакуль людзі, нясучыя галоўную адпаведнасьць за сучаснан эконамічнае разстройство Расіі не стануць на адпаведны шлях“, парадку ў Расіі ня будзе і спробы вырашыць праблему адбудовы сьвету скончацца нічым. Раней чым Расія упарадкуе сябе — приступаць да агульных сурьезных нарад рана.

Адмова П. А. Ш. узяць удзел у Гэнуэзкай Конфэрэнцыі на добрыя 50% зьменшае яе значэньне. І адзін час было неясным, ці адбудзецца яна наагул. Аднак жаданьне як небудзь знайсьці выхад з цяжкога становішча, калі-б не для ўсяго сьвету, дык хоць бы для Эўропы ўзяло гару і ў Генуе зьехаліся дэлегацыі ад 30 дзержаў.

Як ставіцца сьвядомая беларуская палітычная думка да таго канцэрту, што мае разыграцца ў Генуі? Ці павінны прэдстаўнікі Беларусі ехаць у Генуе і заяўляць там свае вымогі?

Нам здаецца, што кождая магчымасьць абароны інтэрасаў беларускага народу павінна быць выкарыстана. Аб Беларусі і аб беларускім пытаньні Эўропа ведае яшчэ надзвычайна мала. Нагэтулькі мала, што, прыкладам, завярэньня палякаў, маючых добрую зьвязь са ўсімі эўропейскімі урадамі, аб „польскасьці“ Горадзеншчыны не сустрэчаюць адпору; наадварот, у спрэчцы аб некаторых беларускіх землях Эўропа становіцца на бок Польшчы, што відаць хоць бы з апошняга літоўска-польскага канфлікту за Віленшчыну і Сувальшчыну. Кождую магчымасьць пашырыць агітацыю за нашу справу, кожды выпадак, дзе беларускае пытаньне можа быць закранута — мы павінны выкарыстаць. Мы павінны знайсьці у Эўропе сваіх пріяцеляў, сваіх прыхільнікаў, якія падымалі бы свой голас ў нашу абарону разам з намі. Мы павінны ўсркываць усёгды, дзе можна, лжывасьць польскіх інфармацый аб Беларусі і беларускім руху; мы павінны тлумачыць усім, каму трэба, што ўяўляе сабой ў стасунку да Беларусі г. зв. „Савецкі рай“ і г. д. Мы павінны як мага шырэй популярызаваць нашы дамаганьня, знаёміць Эўропу аб становішчы і ідэалах беларускага народу. У гэтым сэнсе — беларуская дэлегацыя ў Генуе павінна ехаць і павінна працаваць.

Галоўнае над чым павінна застанавіцца яе увага і куды павінна быць скіравана яе энергія — гэта пытаньне аб падзеле Беларусі.

Рыжскі трактат не павінен выходзіць з нашага палітычнага кругазору ані на момант. У сучасных варунках мы мала што можам зрабіць для яго перагляду. Але таўчы ў гэтым напрамку, падкапываць трактат чым можна і дзе можна, даводзіць яго дзікасьць, яго насільства і яго благія вынікі — мы павінны ў кождым спрыяючым здарэньні. Генуэзкая конфэрэнцыя вельмі важнае здарэньне для таго, каб ім не скарыстацца. Праўда, тыя дзержавы, што тварылі Рыжскі гвалт — Польшча і Савецкая Расія — ніяк ня пойдуць на тоя, каб паставіць пытаньня аб пераглядзе дагавору. Савецкі урад хоць і жадае пра сябе перагляду гэтага дагавору — аднак ня можа і заікнуцца аб сваім жаданьні: падобная заява магла-б падарваць яго крэдыт у вачах Эўропы як ураду што не датрымлівае сваіх умоў. Гэтым карыстаецца Польшча, якая даложыць усіх сіл да таго, каб Рыжскую умову замацаваць як мага на далей. У апошні момант, як гэта ня сумна, але яе імкненья падтрымалі суседнія нам балтыцкія дзержавы.

Задача нашай дэлегацыі ляжыць пакуль што ў тым, каб перашкодзіць плянам Польшчы узмацаваць Рыжскі трактат шляхам міжнарадовага яго вызнаньня. Становішча беларускіх прадстаўнікоў у Генуі ў гэтым сэнсе не безнадзейнае. Ня гледзячы на тоя, што Польшча мае на захадзе даволі прыхільнікаў — ёсьць на яе там жа і здаровы пагляд. Есьць даволі цьвяроза думаючых асоб — і вельмі ўплывовых, якія крытычна глядзяць на імкненьне Польшчы адыгрываць першую скрыпку на ўсходзе; яны гатовы зьменшыць яе апэтыты па захопленьню чужога дабра. Такіх асоб трэба знайсьці, аб'еднаць і ўмацаваць іх пераконаньня новымі даказамі і новым адпаведным матэр'ялам.

Становішча беларускай дэлегацыі што да вызнаньня за Рыжскім трактатам сілы міжнароднага акту не безнадзейнае яшчэ і таму, што Эўропа агульна кажучы не сьпешаецца з афіцыальным вызнаньнем усяго таго, што робяць бальшавікі. Можа і дзеля розных прычын, але заходныя дзержавы, кіруючыся прыказкай „не чапай ліха, пакуль ліха сьпіць“—не паднімуцца на вырашэньне тых пытаньняў, якія могуць застацца і без адказу. Справа Рыжскага міру па нашаму пераконаньню апынецца аккурат у шэрагу гэтых пытаньняў: яе ўпрост абойдуць моўчкі. Боручыся за прагляд Рыжск. Трактату трэба не забываць, што не перагледжаньне яго не азначае замацаваньне, калі ён ня будзе перагледжан, то ня будзе і замацован.

Аднолькова важнай справай уяўляецца нам справа дамаганьняся вызнаньня незалежнасьці Беларусі. Неўнікнёнасьць вызнаньня незалежнасьці нашай бацькаўшчыны—ці то ранейшага, ці то пазнейшага—павінна быць даведзена двума доказамі: фактам суб'ектыўным—волі і імкненьня беларускага народу да сваей назалежнасьці, і фактам об'ектыўным—магчымасьцю толькі такім шляхам прымірыць гістарычна-варожыя адносіны між Расіяй і Польшчай. Эўропа павінна прызвычаіцца да ідэі незалежнасьці Беларусі; а гэта даецца не адразу і толькі пасьля саліднага азнаёмленьня з фактычным зьместам падобнай ідэі.

Чародная задача—дабіцца адшкадаваньня Беларусі за яе страшэнныя страты ў часе вялікай вайны і ўстаноўленьня у ей нормальнага эканамічнага стану. На

жаль, гэта задача ня можа быць цяперь жа пастаўлена актуальна. Фактычны падзел Беларусі паміж Польшчай і Савецкай Расіяй не дае магчымасьці сколькі небудзь рэальна падыйсьці да яго. Яно можа быць нормальна пастаўлена толькі пасьля вызнаньня незалежнасьці Беларусі і пераезду яе Ураду на ўласную тэррыторыю. Бяз гэтага высілкі беларускіх патрыотаў усёроўна прападуць дарма, бо як для Польшчы, так і для Савецкай Расіі цяпер окупаваная Беларусь не аб'ект турбот аб яе дабрабыце, а аб'ект эксплоатацыі цэнтральнай аккупацыйнай улады. Тым ня меней усё, што магчыма ў гэтым напрамку зрабіць і ў сучасных варунках — трэба зрабіць.

Мы не глядзім аптымістычна на адкрываючуюся конфэрэнцыю. Нам здаецца, што гэткі „парад дзержаў“ ня робіць істоты рэчы. Ня гледзячы на вялікі парад, рэальныя вынікі конфэрэнцыі для справы „міра сьвету“ — могуць быць мізэрныя. Бо для запраўднага міру патрэбны не парадныя кангрэссы,—але запраўднае жаданьня міру, патрэбна хоць элемэнтарнае імкненьне да добрасуседзкага супрацоўніцтва. Пакуль што гэткай псыхолёгічнай асновы яшчэ німа.

Яшчэ менш аптымістычна глядзім мы на тоя, што конфэрэнцыя дзержаў у Генуі „даруе“ мір і справядлівасьць Беларусі. Воля ніколі не прыходзе з наўзьне — яна родзіцца з нутры і ў змаганьні. І таму чакаць нам яе трэба не з берагоў Міжзямельнага мора, а з ўласных пушч і сяліб. **А. Ц.**

## Праваслаўная царква на Беларусі.

Гістарычнае прошлае праваслаўнай царквы на Беларусі цесна зьвязана з палітычным палажэньнем Беларускага Народу. У часе поўнай незалежнасьці Беларусі полацкі біскуп называў сваім сынам вялікага князя полацкага, нават тады, калі гэты „сын“ быў не хрысціянінам, як гэта мы бачым у грамаце біскупа Якава да Рыжанаў, дзе ён сынам сваім тытулуе Вялікага Князя Літоўскага і Полацкага — Вітэня.

З утратай дзержаўнай самаістасьці Беларусі, траціць сваё значэньне і кіраўнік беларускага хрысціянства, траціць значэньне ўрэшце і сама цэрква. За вялікіх князёў полацкі праваслаўны біскуп быў адзінай галавой і прэдстаўнікам ўсяго хрысціянства на Беларусі. Пры Вітаўце гэтае галоўнае прэдстаўніцтва хрысціянства ў дзержаве было перанесена на віленскага каталіцкага біскупа. Галава праваслаўнай цэрквы ўжо не ацец вялікага князя, а схізматык, ды нават паганін, бо толькі у XVI сталецьці Рым выясніў, што „хрышчэньне па праваслаўнаму абраду важнае і што русіны не пагане“.

Занепад павагі праваслаўнай цэрквы ішоў ў пары з занепадам дзержаўным і нацыанальным Беларусі.

Ад Вітаўта (1430) і да пачатку XVII ст. Беларусь змагалася пад сцягам праваслаўнай цэрквы за свае нацыанальныя правы. Змаганьня праваслаў'я і ка-

таліцтва ў Беларусі XV і XVI ст. было не выключна рэлігійнае, а нацыанальна рэлігійнае. Пэрыод ад 1430 і да 1619 году можна назваць пэрыодам збліжэньня цэрквы і народу. У гэтым пэрыодзе на тэрыторыі Беларусі важыліся фізычныя і культурныя сілы змагаючыхся, на жыцьцё і сьмерць, двох культур — усходнай і заходнай — і двох нацый — беларускай і польскай. Час збліжэньня цэрквы з нацыяй даў разцьвет беларускага рэнэсансу ў мастацтве і асабліва літэратуры, а такжа разцьвет рэлігійна-нацыанальнай сьвядомасьці. Літэратура закідаючы амярцьвелую царкоўна-славяншчыну чэрпала з багатай крыніцы народнай мовы свой славарь і формы, кіруючыся „да лепшага выразуменьня люду паспалітага“.

Па чыей старане ў выніку барацьбы сталася-бы перамога нельга было правідзсець, каб аб‘еднаньне цэрквы і нацыі трывала далей. Нажаль ў самым заранньню благі лёс разьеднаў цэркву з народам.

Першы ўдар быў нанесен са стараны сваіх-жа, — з абозу, ў разгары змаганьня, — падаўшагася назад, у рэакцыю. Такім рэакцыйным крокам былі начынаньня і пазьнейшая дзейнасьць Князя Канстантына Астрожскага, выдаўшага сваю знаменітую біблію, замест у жывой, народнай мове,—ў мове адумершай, стараславянскай. Біблія Астрожскага — гэта рэакцыя, паварот назад.

Другі і, то, рашучы удар, быў зададзен нашым, тагочасным найвыдатнейшым вучоным, Зызаніем Сматрыцкім, выданьнем яго граматыкі (Вільня 1619).

Граматыка Сматрыцкага рашуча адкінула народную мову, як неразпрацаваную—сьвядома і ўсецэла абаперлася на кніжнай, царкоўнай стараславяншчыне.

Нацыя адрэзаная ад дзержаўнага кіраўніцтва дабіла сябе адрэзаючыся школай і навукай ад народных жывучых і гаючых крыніц. Мёртвай мовай можна было маліцца, можна было для яе укладаць граматыкі, але ня можна было развіваць літэратуры. І літэратура беларуская, закаваная у мертвыя формы пачала хутка заміраць.

Царкоўна-славяншчына не маючы за сабой такіх культурных засабаў, як тагочасная лаціна, павінна была ўступіць мейсца апошняй.

Разбрат царквы з народнай беларускай мовай дорага абыйшоўся як беларускаму народу, так і самой праваслаўнай царкве. Літэратурная творчасьць спынілася; пачалі закрывацца, буйна было разцьвіўшыя у папярэднім пэрыодзе, беларускія друкарні.

У 1621 гаду зачынілася, насьледніца традыцый Ф. Скарыны, Мамонічаўская друкарня ў Вільні.

Ад 1627 году віленская Св. Троіцкая друкарня, праславіўшаяся палемічнымі беларускімі друкамі, пачынае выдаваць кнігі па-польску.

За гэтымі друкарнямі пазакрываліся іншыя, — адны раней, другія — пазьней. У другой палове семнадцатага і восемнадцатым сталецьцях з беларускіх друкарань ужо ня выйшла ніводнай сьвецкай кнігі. Уся друкарская праца

агранічалася адзіна передрукам славянскіх літургічных кніг, выключна для царкоўнага ужытку.

Умысловая праца замерла.

Блуднік на які пайшла цэрква давеў урэшце яе да лёгічнага абсуду: да поўнага адарваньняся ад народу. З двох мала зразумелых моў — царкоўна-славянскай нежывой і польскай-чужай — яна спынілася на жывой пануючай г. зн. польскай мове. Праглядаючы сьпісы кніг выдаваных, найбольш яра бароўшыміся за праваслаўную справу ў Літоўскай дзержаве, праваслаўных манастырскіх друкарань, мы бачым, што пад канец XVII ст. гэтыя апошнія пачынаюць выдаваць цэлы шэраг праваслаўных, царкоўных і духоўных кніг па-польску.

Капітуляцыя перад ворагам аднак ані не памагла праваслаўнай царкве, наадварот, зьбітая з правільнага шляху, адлучаная ад народу, зневажаная і прасьледаваная ворагам, яна што раз больш траціла грунт і значэньне.

Падзел Польшчы, далучэньне Беларусі да праваслаўнай Расіі ўратавала беларускае праваслаўе ад занепаду. Расійская дзержаўнасьць не шкадавала ўсіх, маючыхся ў яе распараджэньні, засабаў каб адбудаваць быўшую славу і значэньне праваславія на Беларусі. Аднак падпіраючы і шыручы царкву Расія не адбудовывала яе на крэпкіх старых фундамантах, не апірала на народнай мове і правечных мейсцовых традыцыях; а наадварот: нішчучы з каранём старое, мейсцовае, векамі злажыўшаеся і зросшаеся з беларускім народам, насаджала праваслаўе па духу і характару чужое, велікаруска-маскоўскае. Царква ў руках расійскага самадзержаўя была аружжам дэнацыаналізацыі і панаваньня над беларускім народам.

У гэтым апошнім тоўпіцца вялікая небаспека для беларускага адраджэньня са стараны праваслаўя: яно—сталетняй служэбнай роляй ў сыстэме расійскай дзержаўнасьці ды русыфікатарскай работай—адрэзана ад беларускіх каранёў і праз гэта ня моцнае і небаспечнае з нацыянальнага боку. Мы, сваімі вачамі бачылі як ў 1905 гаду дзесяткі тысяч цёмных, быўшых раней уніятамі, беларускіх селян, толькі дзеля сьляпой опозыцыйнасьці да „казённай“ веры, пераходзілі ў каталіцтва. У чым-жа казённасьць праваслаўя? У мове чужой, наноснай, не народнай, ў былой блізасьці духавенства са сьвецкай адміністрацыяй. Цяпер пад польскай акупацыяй, за гэтых некалькі гадоў, перайшло другія дзесяткі, а можа і сотні тысяч беларусаў праваслаўных у каталіцтва.

Нашы каталіцкія прозэліты, па сваей цемнаце, тожсамячы рэлігію з нацыянальнасьцю, на другі-ж дзень, пасьля прыняцьця каталіцтва, становяцца, як, зазвычай ўсё прозэліты, самымі заўзятмі ворагамі ня толькі ранейшай сваей веры, але і сваей нацыянальнасьці, становяцца — палякамі. Яны гэтым затрымліваюць і муцяць адраджэнчы беларускі рух.

Кіруючыся нацыянальна-адраджэнчымі мэтамі беларускі рух павінен вельмі ўважліва ставіцца да рэлігійнага пытаньня наагул, а да праваслаў'я, як рэлігіі большасьці, — ў асаблівасьці. Наш рэлігійны дуалізм сам па сабе ёсьць вялікае зло; а тоя што каталіцызм у нас польскі, а праваслаў'е вялікаруска-маскоўскае

зьяўляецца ўжо прост нацыянальнай трагедзіяй, аб якую могуць разьбіцца многія нашыя пачынаньня і надзеі. Ад 1380 году, даты прыняцьця каталіцтва пануючай у нас дынастыяй, Беларусь сталася арэнай змаганьня двох рэлігій, двох хрысьціянскіх абрадаў, а народ беларускі стаўся аб'ектам гэтага змаганьня. Пачынаецца ўжо шостая сотня гадоў напружанай барадзьбы і яна далёка ешчэ не закончана. Наадварот, можна з пэўнасьцю сказаць, што мы ізноў стаім на передодні новай, можа самай рашучай, схваткі двох сьветавых рэлігій, і, дзеля таго, што схватка гэта, як і ў гістарічнай мінуўшчыне адбудзецца на нашай зямлі і за наш народ, нам, адраджэнцам, праступна было бы ня мець свайго, выразна акрэсьлянага пагляду і ясна вырашанага адношэньня да кождай з баюючых старон.

У гэтым нарысе мы робім спробу характэрызаваць праваслаў'я і формуляваць наш да яго стасунак, як да рэлігіі большасьці.

Вышэй мы зазначылі галоўныя чатыры фазы з гісторыі праваслаў'я на Беларусі. Мы адмецілі, што галоўнай прычынай упадку праваслаў'я на Беларусі ад XVII ст., было яго разьеднаньне з нацыянальнай стыхіяй, але мы не адмецілі аднэй рэчы, а менавіта, што ў істоце сваей праваслаў'я ніколі не было ваража беларускай нацыянальнасьці. Яго адклон ад беларускай мовы дыктаваны быў тагочасным разуменьнем, гістарычнага моманту, найвыдатнейшымі барцамі за тую-ж самую справу. Нават у часе найбольшай расійскай рэакцыі, русыфікатарская дзейнасьць праваслаў'я на Беларусі дыктавана была не спэцыяльнай варожасьцю царквы да беларускага народу, а расійскім імпэрыялізмам і характэрнай Маскве нетолерантнасьцю. Нацярпеўшыся ў папярэдні польскі перыод зьдзекаў і крыўд, праваслаўнае духавенства пайшло на служэньне братняй аднавернай Маскве ідэйна. Трэйцяя старана — беларускі народ — іграў ролю адзіна об'екта, сам ён быў тады нагэтулькі задушан, што ня мог сказаць свайго ўласнага слова. Мейсцовае праваслаўнае духавенства само было даўно ўжо адарвана ад народу. У часе прылучэньня Беларусі да Расіі нашы праваслаўныя вярхі, бачучы векавечнага свайго ворага — Польшчу — разпластаным ня мелі часу і змогі навязываць з народнай стыхіяй старых зьвязкоў: Усё-ж роўна народ беларускі памер! Тыя, як ім здавалася, рэшткі ў ім жыцьця трэба выкарыстаць на аб'еднаньня з братняй праваслаўнай Масковіяй, каб і ён, народ, пасьля доўгіх мук і паняверкі, мог зажыць шчасьлівейшым жыцьцём. Пагляд, што й казаць памылковы, недальназоркі. Але ізноў — такі віна тут быўшых пакаленьняў, а не самой царкоўнай арганізацыі, як такой.

У цяперашні момант, пасьля сьветавой вайны, праваслаўная царква на Беларусі, асабліва тэй часьці Беларусі, што пад польскай акупацыяй, перажывае цяжкі крызыс, Пазбаўляная патужнай апекі колішняга расійскага ураду, прасьледаваная і грабленая палякамі, атакаваная з усіх старон каталіцтвам, яна не мае сіл і змогі бараніць сябе.

Праваслаў'е беларускае разплачываецца цяпер за расійскі імпэрыялізм і памылковую палітыку апошняга. Аднак з гэтай, яе часовай слабасьці праваслаўная беларуская царква можа выйсці адроджанай і двакрот узмацаванай, пры

адным варунку: калі яна здоляе, праз ўсё наваленыя гісторыяй паміж ею і народнай бэларускай массай завалы, падыйсьці ў сутыч да народу і долю сваю цесна зьвязаць з народнай доляй. Об‘ектыўна кажучы для нашага праваслаўнага духавенства ўзгадаванага ў русыфікатарскай старой школе заданьня ня лёгкае.

Каб дасьцігнуць аб‘еднаньня з народам і свайго ўласнага адраджэньня, праваслаўнаму духавенству трэба прайсьці праз горан беларускага адраджэньня.

Пакуль што праваслаўная царква у нас, паміж сваіх пастыраў, мае многа людзей шчыра адданых сваей справе, але мала ёсьць людзей належна ацэняючых пеpажываны гістарычны момант і асабліва адраджэнчы момант ў жыцьці беларускага народу і ролю яго ў разьвіцьці гістарычных падзей ў будучыне.

Аднак, беручы пад увагу, што праваслаў‘е органічна зьвязана з беларускім народам, што ў істоце сваей ня ваража яму і ўрэшце што нацыянальны і рэлігійны вораг адзін і той-жа, а найважнейшае, што праваслаўнае духавенства рэкрутуецца з тых-жа народных беларускіх масс, справа зближэньня беларускага адраджэнчага руху і беларускага праваслаў‘я ў будучым немінуча.

Адраджэньня беларускае, ставячы свае вымогі беларускай царкве нацыанальна адраджэнчага характару, не павінна ісці супроць немінучай канечнасьці, а наадварот, дзеля эканоміі сіл, павінна быць добрым праваднікам, адраджэнчых ідэй ў царкву.

Праваслаў‘я на Беларусі павінна быць беларускім.

Побач з беларусынізацыей праваслаўнай царквы паўстае пытаньне аб царкоўным кіраўніцтве. Украіна цяпер змагаецца за аўтокефальнасьць украінскай цэрквы, г. зн. за поўную яе незалежнасьць і самаістасць. Трэба шчыра сказаць, што для нас гэта справа і гэта форма вырашэньня царкоўнага кіраўніцтва, пры цяперашнім падзеле Беларусі і гаспадарэньню акупантаў, стварыла-бы толькі новыя замешкі, без ніякіх рэальных карысьцей для справы. Дзеля гэтага нашы вымаганьня да Патрыярхату Усяе Русі павінны агранічацца жаданьнем адбудаваньня даўней існаваўшай аўтаноміі Беларускай праваслаўнай царквы, якая-бы абнімала ўсе этнографічна-беларускія землі, ды каб на абшары этнографічна беларускім, чужая народу вялікаруска-маскоўская мова была поўнасьцю (акром літургіі) заступлена ў царкоўным ужытку мовай беларускай. Каб біскупскія катэдры былі абсаджаны ураджэнцамі Беларусі, валадаючымі беларускай мовай, а такжа каб было пастаўлена за абавязак беламу духавенству, дзеля зближэньня яго з народам, знаньня і ужываньня беларускай мовы ў царкоўным і штодзенным жыцьці.

А найважнейшым, пякучым і ня церпячым адвалокі вымаганьнем ад Патрыярхату Усяе Русі ёсць каб беларускія землі, апынуўшыяся пад польскай акупацыяй былі незвалочна выдзелены ў асобную царкоўна-адміністратыўную адзінку. І ў сваім вярхоўным упраўленьні падлегалі-бы не Варшаўскаму экзарху, а Беларускаму Мітрапаліту.

Навіна, уведзеная ў пачатках бягучага году, саборам „польскіх праваслаўнык біскупоў“ ў Варшаве, каб біскупы Віленскі, Гарадзенскі, Новагрудзкі, Берасьцейскі і Пінскі ў царкоўным упраўленьні залежалі ад Варшаўскага Экзарха павінны быць Сьвяцейшым патрыархам адменяны. Гэтага вымагае дабро самой праваслаўнай беларускай царквы і нацыанальныя інтэрасы Беларускага Народу

**Вячаслаў Сьвятагор.**

---

*
* *

Наперад, змагарна наперад!
Да волі цярэбячы троп, —
Штодзенна ўскіпаем мы гневам
І помсту шлюбуем па гроб!

Нахрапнаю крыўдай ня ўздержыць
Вам вольны ў кайданах прастор:
З дум горкіх, з сэрц нашых, гартоўны
Скуем мы з праклёнам тапор.

Праметну заборчасьць, падзелы
І зьдзекі, і крыўды, і пот; —
Бярэсьця і Рыгу, ў дзень судны,
У дзень помсты, спамяне народ!

Наездчык,—крыўдзіцель-грабіцель, —
Спакойны стурбуем твой сон: —
Пасокаю чорнай тваею
Наш родны угноім загон!

**Власт.**

---

# Алесь Гарун

**(Александр Прушынскі).**

*Мае успаміны.*

Гэта было ў 1918 годзе — ў старым Менску. У скромнай зале, за нямалеванымі простымі сталамі, сабраліся прадстаўнікі беларускага народу. Адбывалася сэсія Рады Рэспублікі. Маладыя аблічча, гарачыя рэвалюцыйныя прамовы. Шмат тэмпараманту, шмат прыгожых рэзалюцый, але як мала натужнай працы, як мала патрыатызму! Словы і словы... Рэвалюцыя, паглыбленьне рэвалюцыі, змаганьне з нямецкім імпэрыалізмам...

І ня дзіўна: мядовыя месяцы вялікае уздойміцы яшчэ ня былі пражытымі і цяжка было памірыцца з горкай праўдай, балюча было бачыць нямецкага шуцмана.

Старшыня Рады Рэспублікі абвесьціў, што слова належыць Раднаму Прушынскаму. Паднялася крыху згорбленая, апранутая ў селянскую жакетку, павольная статура. Бледнае аблічча, цемныя засмучаныя вочы, спакойны роўны, але цьвёрды, голас. Пачаў гаварыць просты сталяр, былы „катаржнік", якога лепшыя гады жыцьця прайшлі ў халоднае і дзікае Сыбіры. Па волі расійскага цара — за лепшыя ідэалы, за абарону правоў векамі няволенага беларускага селяніна, дзевяць гадоў катаргі, дзевяць гадоў голаду і маральных зьдзекаў... Толькі мужыцкі сын, гарачы патрыот, мог знайсьці ў сабе сілы і веру, каб перажыць увесь цяжар катаргі. Гэтая вера і гарачая любоў да свайго роднага вылілася ў яркіх „думках"-песьнях, ў прыгожых і ўталентаваных вершах.

„Паны Радныя" — гаварыў А. Прушынскі. „Я чуў тутака гарачыя і прыгожыя прамовы. Шмат гаварылася тутака аб рэвалюцыі, аб заслугах блізкага нам расійскага пралетарыяту, аб патрэбе паглыбляць рэвалюцыю. Я шаную рэвалюцыю, я аддаю ей сваю пахвалу. Я сам рэвалюцыанер, але аб адным забыліся Вы: рэвалюцыі ў нас на Беларусі німа. — Яе задушылі Гофман і Троцкі у Бярэсьці, падзяліўшы нашу Бацькаўшчыну, разарваўшы яе на часьці. Вы гаворыце аб паглыбленьні рэвалюцыі ў той час, калі нямецкі шуцман можа прыйсьці сюды і разагнаць гэты Высокі Сход. Іншыя з Вас раюць нават змагацца з нямецкімі акупантамі аружнай сілай, вясьці наш народ на барацьбу з узброеным немцам куляметамі і граматамі. А ці падумалі тыя, якія раюць гэта рабіць, і сваймі харошымі прамовамі і другіх да гэтага шалёнага учынку падбухторуюць, што магло-б стацца, каб запраўды наш селянін з голымі рукамі пайшоў біцца з немцам? Ці падумалі аб тым, што мітынговыя прамовы пара скончыць, што трэба цяперака займацца не прамовамі, а трэба, па маей думцы, разважыць аб тым, як пачаць і з чаго распачаць нашае дзяржаўнае будаўніцтва. Трэба падумаць аб тым, ак уцекачоў нашых пераправіць на Бацькаўшчыну, чым накарміць іх, — як школы адкрыць, як абараніць нашага селяніна ад рэквізыцыяў, як завясьці суды і шмат, шмат яшчэ чаго.

„Паны Радныя, памятайце, што мы—прадстаўнікі народу, мы яго голас. Прыпомніце, што народ нас выбраў для працы і працы цяжкой, а не для гульняў і прыемных гутарак і супярэчак. Наш селянін мала гаворэ, а шмат робіць. Вас — прадстаунікоў народнае волі — я заклікаю да працы".

Вось прамова, якую я запісаў у сваім часе, і якая даволі характарызуе нябошчыка Аляксандра Прушынскага.

*

1919 год. Нямецкую акупацыю зьмяніла бальшавіцка-маскоўская. Урадовыя беларускія установы выехалі. Рада Рэспублікі сваю чыннасьць спыніла Сябры Рады Рэспублікі абвешчаны былі бальшавіцкай ўладай „вне закона“. Прушынскі застаўся ў Менску. „Нікуды не паеду“ — казаў ён. „На Бацькаўшчыне шмат працы. Сьмерці-ж я не баюся, дый і не разстраляюць мяне — пасаромяцца усе-ж такі я — стары рэвалюцыанер“.

І застаўся працаваць, працаваў цяжка. Працаваў у дзіячых прытулках, не даедаў часта, не дасыпаў, хварэць пачаў. Меў шмат клопатаў і непрыемнасьцяў ад бальшавіцкіх камісараў, але заставаўся, як заўсёды, спакойным і гумару не траціў. Па вечарах да позна сядзеў і пісаў свае думы-вершы. Дзяліўся са сваей матуляй-старушкай сваймі радасьцямі і смуткамі.

Пад канец панаваньня бальшавікоў ў Менску распачаўся нялюдзкі тэрор. Кожды дзень разстрэліваліся сотні людзёў. „Чэка“ агарнула якоесьці шалёнства. Стала цяжка дыхаць. Алесь пачаў нэрвавацца, пачаў пратэставаць, і пратэставаць адкрыта, не хаваючыся і не палохаючыся за ўласнае жыцьцё. З вялізарным трудом, проста сілком, удалося прыяцелям Гаруна угаварыць яго выехаць на нейкі час з Менска. І гэта было зроблена ў пару, бо „чэка“ ужо яго шукала...

*

Бальшавіцкая акупацыя зьмянілася польскай. Заварушыліся беларусы, забегалі. Шмат працы, шмат працы! Трэба ствараць ўсё спачатку, на нова. Німа газэты, німа грошы. Школы сталі — дзеці ў прытулках галадаюць.

Маніфэст Пілсудскага акрыліў надзеямі, паддаў энэргіі і веры...

„Як роўны з роўным, як вольны з вольным... Ідзем вызваляць вас з пад чужацкага ярма, каб Вы самі пастанавілі аб сваей дзяржаўнай прыналежнасьці“...

Прыгожыя словы, падсалоджаныя. Шмат хто паверыў ім — ў тым ліку быў і Гарун. Я памятую яго сільную зьместам прамову да Пілсудскага, калі апошні быў у Менску. Гарун гаварыў і верыў, што запраўды прышлі палякі, каб вызваліць Беларусь ад чужынцоў з усходу, каб запраўды даць нашаму народу распачаць будаўніцтва свайго гаспадарства. І доўга трымалася ў ім гэта вера. Шчыра пачаў працаваць ў кірунку зблiжэньня двох блізкіх народаў—паляка ўжо аслабніўшагася і бесаруса яшчэ прыгнечанага.

*

1920 год. Польская акупацыйная пята пачала крэпка душыць беларушчыну. Аб прыгожых словах маніфэсту Пілсудскаго ужо забыліся. Былі „усходнія крэсы“ з жандармэрыяй, з галіцыйскімі чыноўнікамі і польскім шалёным шовінізмам.

Пачаліся фармацыі беларускага войска. Гэтай справай верхаводзіла Вайсковая Камісія. На чале яе стаяў Прушынскі. І тут ён верыў, што палякі пойдуць на сустрач беларускаму грамадзянству — дадуць стварыць сваю збройную сілу. Алесь і тутака працуе аддаючы гэтай справе свае, ужо надарваныя хваробай, сілы. Пры надзвычайных варунках вялася гэтая праца. Халодныя і галодныя афіцэры першага беларускага войска, лепшая беларуская інтэлігенцыя, напружалі сілы, каб стварыць свае войска, каб убачыць на родных вуліцах сталіцы беларускіх жаўнерау і пачуць беларускую жаўнерскую песьню. Напружаліся, працавалі — але ўжо болей ня верылі падсалоджаным словам польскага пана...

Перастаў ім верыц і Гарун. Ня верыў і разчараваўся ў самой магчымасьці штосьці зрабіць пад польскай пятой. Шалёная хвароба прыкавала бедака да ложа. Тубэркулёз лёгкіх рабіў сваю работу. Алесь чах і відавочна слабеў. Але і тут знайшоў у сабе сілы не пакідаць каханай справы.

Ён пачаў пісаць свае знамянітыя „Дзіцячыя Казкі“. Кажу знамянітыя, бо толькі чуткая і крышталёвая душа Гаруна змагла даць такія прыгожыя, так глыбока разумеўшыя дзіцячую душу—казкі.

*

Пад навалай бальшавікоў польскае войска уздрыгнулося, пачало паддавацца. Гарэлі вёскі і мястэчкі. Гэта палякі „каралі“ беларускіх селян. Пачаліся разстрэлы, пачаўся зьдзек. Агнём, крывёй і сьлязьмі беларускага селяніна генерал Шэптыцкі хацеў стрымаць наступленьне бальшавікоў...

Хворы, ледзь жывы, амаль што не з апошнім цягнікам, выехаў Гарун з Менску.

— „Куды едзеш і пашто едзеш?“ — пытаюся. „Еду“ — адказвае — „бо цяперака калі-б застаўся, дык не мінуў-бы бальшавіцкае кулі. А жыць я яшчэ хачу, дужа хачу“.

І едзем. Едзем у таварным вагоне, на быдлячым гнаі. Шмат нас сабралося, усе мы пахмурыя, маўклівыя. І кожды з нас мае на думцы напэўна адно і тое: „вось чым адплацілі палякі нашаму народу за нашае даверра — пажарам Беларусі! А нас прадстаўнікоў яго вязуць ў гнаёўцы“.

З цяжкімі і сумнымі думкамі даехалі да Ваўкавыска. Гарун зусім аслабеў. З больлю ў сэрцы прышлося палажыць яго ў паходны вайсковы шпіталь, які давез у Кракаў.

У Кракаве, на чужыне, без ніводнага блізкага чалавека, знайшоў сабе Гарун вечны адпачынак...

Кажуць, што на вайсковых могілках можна знайсьці могілку, на якой стаіць маленькі дрэўляны крыжык з ледзь-ледзь прыкметным надпісам:

„Тутака пахаваны Александр Прушынскі“...

*А. А—к.*

**ЗНІМКІ алавяных печацей з тарговай умовы паміж Полацкам і Рыгай**

Перша-япечаць полацкага біскупа **Грыгорыя**, другая — князя **Глеба Рогвалодавіча**, брата св. Параскевы. Арыгінал пераховываецца ў Рыжскім местовым архіве.

# Дэклярацыя

## УРАДУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ НА ЧАЦЬВЕРТУЮ ГАДАЎШЧЫНУ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ.

**25. III. 1918—25. III. 1922.**

Доўгія сталецьці зьдзекаваліся і гнятлі нас чужынцы—грабілі, абдзіралі, запрагалі у ярмо. Крывёй нашай прасякла беларуская зямля, сьлязьмі прагорклі нашы воды. І ўбачылі, зразумелі і пераканаліся лепшыя сыны нашай многапакутнай бацькаўшчыны, што ня будзе жыць лепей беларускі гаротны народ да таго часу, пакуль ён не стане гаспадаром у сваей роднай старонцы, ня будзе жыць лепей датуль, пакуль ён будзе хадзіць у ярме, а чужынцы будуць панаваць над ім.

Гэтай думкай кіруючыся, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, выпаўняючы волю Першага Ўсебеларускага З'езду, у Менску, у гэтым сэрцы паўстаўшай да новага жыцьця Беларусі, скінуўшай апошнія кайданы няволі маскоўскага царызму, 25. Ш. 1918 г. выдала Устаўную Грамату, абвешчаючы наш край вольнай і незалежнай народнай Рэспублікай.

Гэтым векапомным актам, прэдстаўнікі беларускага народу сказалі: чужога ня хочам—сваё беражом. Мы, беларусы-гаспадары на сваей зямлі! Гэтым актам яны падалі кліч на ўсю Беларусь бароцца за сваю зямлю, за сваю волю, за сбаю ад нікога незалежную дзержаву.

Абвешчаючы незалежнасьць свайго роднага краю, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі спакладала свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсьніць яго нацыанальна-дзержаўныя ідэалы: устанавіць на беларускай зямлі народна-рэспубліканскі лад, перадаць зямлю бяз выкупа тым, хто сам на ей працуе, устанавіць васьмігадзіны дзень працы, свабоду слова, друку, сходаў, забастовак і хаўрусаў, бязумоўную свабоду сумленьня, незачэпнасьць чалавечай асобы і памешканьня, цьвёрда устанавіць і ўцелаісьціць усе грамадзкія, культурныя, рэлігійныя і палітычныя свабоды, надаць кождай нацыанальнай меншасьці ў краі праз сбабодна выбраныя нацыянальныя установы, поўнасьцю разьвіваць сваю родную культуру і, на раўне з дзержаўнай беларускай мовай, ужываць іх мову ва ўсіх дзержаўных установах рэспублікі.

У гэнай Устаўной Грамаце, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, рашуча пратэставала супроць Берасьцейскай мірнай умовы падзяліўшай на часьці Беларусь. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі станоўча заявіла, што ўсе старыя зьвязі, устанаўляныя насільствам маскоўскага царызму, даўшыя магнымасьць і Савецкай Расіі падпісаць за Беларусь мір у Берасьці—гэныя зьвязі трацяць уселякую моц.

Толькі сам беларускі народ, на сваім свабодна выбраным Усебеларускім Устаноўчым Зборы, можа аканчальна вырашыць сваю долю і, кіруючыся сваімі жыцьцёвымі інтарэсамі, ўвайсьці ў тую або іншую свабодную сувязь з сваімі суседзямі на аснове роўнапраўных старон.

Гэтакія былі паложаны падваліны ў аснову дзержаўна-незалежніцкага жыцьця вольнай Беларусі.

Беларусь хацела быць у згодзе з сваімі суседзямі, імкнулася працаваць на карысьць свайго эканамічнага і культурнага адраджэньня.

Але сталася інакш чымся думалі лепшыя сыны Беларусі.

Імпэрыалістычныя суседзі, карыстаючыся часовай перавагай сваіх збройных сіл, напалі на родны наш край, у моры крыві і сьлёз затапілі справядлівыя дамаганьні працуючых Беларусі.

З канца ў канец праходзілі нашу Маці-Беларусь чужацкія наездцы-акупанты. Руйнавалі нацыанальныя багацьці, зьніштажалі народны дабрабыт, грубай сілай штыка і кулямёта устанаўлялі свае парадкі гвалту, зьдеку і самаўпраўства.

Турмы і канцэнтрацыйныя лагяры перапоўняны беларускай інтэлігенцыей, сьвядомымі работнікамі і селянствам.

Німа тае хаты дзе-б не было бязвінай ахвяры жорстка замучанай акупантамі.

Аднак,—ня гледзячы на ўвесь нечуваны тэрор акупантаў, беларускі народ ні на адну хвіліну ня спыняў свэй упартай барацьбы.

У цэлым радзе паўстаньняў беларускі народ даказаў чаго ён жадае і да чаго як мага імкнецца.

Беларускі народ жадае быць вольным, жадае быць смаістым гаспадаром у сваім родным краі!

Выбраны Радай Беларускай Народнай Рэспублікі Урад праз увесь час моцна трымаў у сваіх руках сьцяг змаганьня за незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі.

Але найбольш яскрава выявілася імкненьне беларускага народу да волі і незалежнасьці пад час паўстаньня ў Случчыне ў лістападзе і сьнежні 1920 году.

Слуцкае паўстаньне—гэта быў пратэст беларускага народу супроць Рыжскага міру паміж Савецкай Расіей і Польшчай, каторыя, выходзячы з прызнаньня права народаў на самаазначаньне, прызналі, ў пункце першым таго-ж Рыжскага дагавору, незалежнасьць Беларусі, а пасьля—незалежную Беларусь паміж сябе падзялілі, разарвалі на часьці жывы народны арганізм.

Ня гледзячы на тое, што Слуцкае паўстаньне было задушана з двох бакоў, гэта ё: маскоўскімі і варшаўскімі імпэрыалістамі—яно застаецца пуцяводнай зоркай у гісторыі беларускага вызвабадзіцельна—адраджэнчага і дзержаўна-незалежніцкага руху.

І вось, ад 25. III. 1918 г., ужо чацьвёрты год змагаецца беларускі народ за сваю волю і незалежнасьць. Многа лепшых сыноў Беларусі палягло за гэту сьвятую справу. Многа праліта за гэтыя чатыры гады бязьвінай беларускай крыві на палёх няроўняга змаганьня. Мы ня йшлі забіраць чужое, мы чатыры гады натужалі сілы нашы баронячы сваю зямлю, сваё дабро, свой гонар чалавечы ад тых, каторыя да нас прыйшлі грабіць і паняволіваць.

От-жа, Берасьцейскі мір дзяліўшы Беларусь на часьці самым жыцьцём ужо скасаваны. Рыжскі мір яшчэ трымаецца. Але нідалёка той дзень, калі Рыжскі мір будзе скасаваны. Гэты дзень не за гарамі. Надыходзе час, калі скрозь хмары цёмныя загляне к нам яснае сонца праўды і волі.

А пакуль не настане час вызваленьня, ніхай кожды беларус сам сабе скажа: не здамся крыўдзіцялю ворагу! Не схілю сваей галавы ў чужацкае ярмо!

Ніхай яшчэ дзэнь—другі, ніхай яшчэ год барацьбы, але перад намі воля і незалежнасьць. І вызвалім Беларусь! І скінем чужацкія ёрмы!

Народзе Беларускі!

Твая доля ў тваіх ўласных руках. Справа вызваленьня і адраджэньня тваей бацькаўшчыны — гэта ёсць справа тваіх мазольных рук.

Цясьней гуртуй свае рады пад сьцяг змаганьня за волю і незалежнасьць тваей Бацькаўшчыны.

Адзінай арганізаванай грамадой магутны дай атпор тваім крыўдзіцелям.

Толькі ў еднасьці і арганізаванасьці наша моць і сіла.

Не арганізованыя выступленьні павіны быць спынены.

Больш веры ў сябе, ў свае сілы!

Сьвяткуючы чацьвёртую гадаўшчыну абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі моцна верыць у творчы розум беларускага народу і заклікае стаць у рады актыўных змагароў усіх тых, што ня хоча быць нявольнікам, хто сваё жыцьцё гатоў аддаць за волю і незалежнасьць Бацькаўшчыны.

Слава паўшым змагарам у няроўным баю!

Слава мучанікам, што тамяцца, ў зьненавіджаных вастрогах акупантаў, за вызваленьне бацькаўшчыны!

Ніхай жыве беларуская народная рэвалюцыя!

Прэч з Рыжскім мірам!

Ніхай жыве Беларускі працоўны народ!

Ніхай жыве вольная, незалежная і непадзельная Беларусь!

**Урад Беларускай Народнай Рэспублікі.**

25. III. 1922 году.

# Мэморандум Беларускай Народнай Рэспублікі Конфэрэнцыі Дзержаў у Генуі.

Праблема адбудаваньня нормальнага эканамічнага жыцьця Эўропы натыкаецца на галоўную перашкоду — праблему палітычнага упарадкаваньня Усходу Эўропы.

У свой чарод, праблема упарадкаваньня палітычнага статуса на Усходзе Эўропы натыкаецца на галоўнае пытаньня —аб расійска-польскіх ўзаемааднасінах.

Гісторыя польска-расійскіх адносін ад першых крокаў дзяржаўнага істнаваньня Расіі і Польшчы сьведчыць, што гэтыя адносіны арганічна варажыя. Польшча пачувала сябе супакойна толькі у тыя пэрыоды, калі падупадала значэньня Расіі, і, наадварот, Расія пачувала сябе супакойна калі ей удавалася абмежаць дзержаўную сілу Польшчы. Наагул можна сцьвердзіць, што гісторыя польска-расійскіх адносін ў мінулым — гэта гісторыя безупыннага змаганьня паміж Масквой і Варшавай.

Той самы малюнак заўважаецца і ў цяперашні час: як толькі Польшча паднялася з попялу нябыцьця, то на другі-ж дзень пачалася вайна яе з Савецкай Расіяй.

Як сьведчыць гісторыя, змаганьня паміж Польшчай і Расіяй пачалося і дагэтуль трывае за абладаньне Беларусьсю (і адначасна заходнай часці Украінскага абшару). Маскоўска-польскія войны за абладаньне Беларусьсю пачаліся з 1501 году (паход цара Іоанна III Васільевіча) і цягнуліся да 1667 г. (Андрусаўскі мір). За гэтыя 150 з лішнім гадоў згубнай вайны, Беларусь утраціла сваю незалежнасьць і з красуючага, пышнага сваей культурай (Літоўскі статут), края, абярнулася ў крушню руінаў пакрытых лесам. Па Андрусаўскай угодзе Польшча замацавала за сабой Беларусь. Але фактычнага міру Андрусаўскі трактат не ўтварыў: ужо цар Аляксей Міхайлавіч назваўся царом Беларусі; праваслаўныя беларусы пацягнулі да Масквы. Прэтэнсыі апошняй пачалі узмацовывацца і закончыліся ўключэньнем Беларусі ў склад Расіі, шляхам падзелу Польшчы у 1772 гаду.

Паказаныя гістарычныя факты агульна вядомы і не запярэчны.

Сучасныя нам падзеі яшчэ лішні раз сьцверджаюць гэты прынцып: змаганьне Польшчы і цяперашняй Савецкай Расіі адбываецца за панаваньне над Беларусьсю. Хоць клічы імпэрыалістычных імкненьняў гэтых дзержаў і перамяніліся, але істота асталася тая самая.

Усё-ж, у цяперашні час адносіны крыху зьмяніліся, дзякуючы двом прычынам;

а) Беларусь у працэссе Рэвалюцыі абусьвядоміла сябе нацыанальна незалежнай адзінкай і ўступіла ў змаганьне як трэйцяя старана за права свайго дзержаўнага самаазначаньня;

б) абедзьве стараны, ні Расія, ні Польшча на гэты раз не аказаліся стасункова так сільнымі, каб захапіць ўсуцэль ўсю тэрыторыю Беларусі.

Адпаведна гэтым двом абасновам, ў выніку польска-расійскай вайны вынырнуў абапольны кампраміс: па першае, будучы прымушанымі лічыцца з фактам беларускага нацыанальна-дзержаўнага адраджэньня Расія і Польшча прызналі незалежнасьць Беларусі і, па другоя, памянёныя варагуючыя староны падзялілі паміж сабой тэрыторыю Беларусі.

Не гледзячы на ачавістую супярэчнасьць падобнага рашэньня, азначаны кампраміс замацаваны ў адным і тым самым Рыжскім трактаце.

Дзякуючы Рыжскай угодзе на Беларусі стварылася гэткае палажэньня:

а) Пад націскам беларускага нацыанальна вызвольчага руху Савецкая ўлада ў цэнтральнай часьці тэрыторыі Бе-

ларусі абвесьціла Беларускую Савецкую Рэспубліку са сталіцай Менскам. Гэтая Савецкая Рэспубліка, абыймаючая пяць паветаў бышай Менскай губэрні, роўных прыблізна абшару Латвіі, уходзіць у склад Расійскай Савецкай Фэдаратыўнай Рэспублікі і мае толькі тры самаістых міністэрствы (камісарыаты). З прычыны вельмі вялікіх асобнасьцяў народнай гаспадаркі Беларусі, Савецкая ўлада не праводзіць у Савецкай Беларусі поўнасьцю сваей камуністычнай праграмы.

б) Усходная часьць Беларусі — быўшыя губэрні Магілеўская і Вітэбская, а такжа часьць Смаленскай, — далучаны да Савецкай Расіі.

в) Заходная Беларусь, лежачая з гэтага боку Рыжскай лініі, да рэк — Прыпяці, Заходнага Бугу і Нарэва, акупавана палякамі.

г) Урэшці часьць тэрыторыі акупавана войскамі генэрала Жэлігоўскага.

Само сабой ясна, што тоўпячый ў сабе непрымірымыя супярэчнасьці — Рыжскі трактат ня можа лічыцца актам, закладаючым асновы міра на Усходзе Эўропы.

Рыжскі мір падзяліў старонку суцэльную ў нацыянальным і эканамічным адношэньнях. Высокачэсныя імкненьня беларускага народу да свайго нацыянальнага адраджэньня прыдушаны варожай вайсковай акупацыяй. Уся Беларусь пастаўлена перад неўнікнёнасьцю эканамічнага занепаду і абядненьня, бо збурана натуральная гаспадарчая сувязь яе часьцей. Збурана натуральная, векамі злажыўшаяся сувязь Беларусі з Прыбалтыкай, да якой цяжэе і ўсходная Беларусь.

Польшча імкнулася апраўдаць Рыжскі трактат патрэбай злучыць пад сваім дзержаўным кіраўніцтвам каталіцкі элемент Усходнай Эўропы. Ды толькі гэткае сярэднявечнае імкненьне пярэчыць праўдзе: калі праўда, што большасьць Віленшчыны каталіцкая, то гэтак сама праўда, што немаль ўся Горадзеншчына, больш блізкая да Польшчы — праваслаўная.

Фактычна, статус, устаноўлены Рыжскай угодай, замацаваў сабой лінію, на якой здарэньнем спынілася зьвяканьне польска-расійскага аружжа. Рыжскі мір абярнуў гэту лінію у дзяржаўную мяжу, даўшы магчымасьць абедзьвем старанам перадыхнуць да таго моманту, калі Рыжская „дзержаўная граніца“ ізноў абернецца у тоя, чым яна ёсьць — ў лінію польска-расійскага фронту.

Угода, вытвараючая падобнае палажэньне падлегае перагляду і адмене. Будаваць на ей якія колечы пляны будучага было-бы палітычнай неагляднасьцю.

Прызнаньне за Рыжскім трактатам моцы міжнароднага акту было-бы разам з тым аграмаднейшым гвалтам над Беларускім Народам, гвалтам роўным падзелу Польшчы у 1772 гаду.

З падобным гвалтам нацыянальна адраджаючаяся Беларусь ніколі не пагодзіцца. Замест міру — край будзе засуджан на безперарыўную глухую барацьбу з акупацыяй. Народ ня спыніць змаганьня датуль, пакуль не даб‘ецца свайго вызваленьня і аб‘еднаньня.

Імкненьне да міру ня можа быць рэалізавана шляхам падзелу Беларусі.

II.

У момант упадку расійскага самадзержаўнага ладу і ў той час, калі Польшча ня выступіла яшчэ на палітычную арэну, Беларусь арганізавала на сваей зямлі нацыянальную ўладу. Дзержава была утворана ў форме Беларускай Дэмократычнай (Народнай) Рэспублікі з дзержаўным цэнтрам у Менску. На чале кіраўніцтва краем стануў выбарны прадстаўнічы орган — Рада Рэспублікі, пакліканая уцелаісьціць Беларускі Устаноўчы Збор. Беларуская Дэмократычная Рэспубліка атрымала прызнаньне сваіх суседзяў, у тым ліку Рады Рэгенцыйнай Польшчы, і, пазьней, заключыла дзержаўную сувязь з Літоўскай Рэспублікай.

На жаль, незалежнасьці Беларусі ня суджана было праістнаваць больш доўгі час. Няўдоўзе узнавілася гістарычнае змаганьне Масквы і Варшавы. Беларусь, распаложаная паміж дзьвема гэтымі краінамі, апынулася спёртай з двох бакоў. Змагацца на два фронты было ей ня ўзмогу і яна, пасьля чатырох гадоў эўрапэйскай вайны, паноўна абярнулася ў арэну панаваньня акупацыйных войскаў.

Гэткім чынам вайна лютуе на Беларусі ужо сёмы год. Гэта звыж сілаў Беларускага Народу. Але калі культурныя дзержавы сьвету не ўмешаюцца ў справы Усходу Эўропы і ня прыміраць ў істоце расійска-польскія адносіны — наша бацькаўшчына доўга не збавіцца страхоцьцяў разбураньня, голаду і пошасцяў.

Істнаваньню адвечнага змаганьня паміж Расіяй і Польшчай павінен быць учынен канец, прычым Беларусь з аб'екта спрэчак павінна абярнуцца у элемент міра паміж імі. Апошняе магчыма толькі апасьля таго, як Высокая Конфэрэнцыя Дзержаў у Генуі прызнае, што прэтэнзыі Сав. Расіі і Польшчы на тэрыторыю сувэрэннага Беларускага Народу не маюць пад сабой ніякіх асноў.

**Замірэньне польска-расійскіх адносін магчыма толькі шляхам прызнаньня незалежнасьці Беларусі.**

Падобнае прізнаньне апіраецца на сьледуючых асновах:

І. Беларусь выяўляе сабой край з самаістым па сваей нацыанальнасьці жыхарствам, са сваім асобным укладам жыцьця, гісторыі, культуры. Народ беларускі ў працэссе змаганьня даказаў сваю здольнасьць да дзержаўнай арганізацыі. Свае змаганьне за вызваленьне Баларусь вядзе і ў цяперашнім часе, аб чым Урад Беларускай Народнай Рэспублікі не раз даводзіў да ведама Эўропы. Той варунак, што беларуская дзержаўнасьць аказалася раздушанай часова пераважаючымі сіламі суседзяў, ня можа служыць аргумантам супроць прызнаньня незалежнасьці Беларусі. Падобнага націску з двох старон ня мог-бы вытрымаць ніводзін народ, пачаўшый дзержаўна арганізавацца на тэрыторыі быўшай расійскай імпэрыі.

ІІ. Беларусь ў мінуўшчыне, пачынаючы ад X і да XVII ст., мела ўласную дзержаўнасьць, будучы пад канец ў лучнасьці з Літвой. У той час Беларусь выявіла выключныя творчыя сілы, як у палітычнай, так, асабліва, ў культурнай дзедзіне. Аб гэтым сьведчаць памятнікі яе гісторыі. У тэй або іншай форме Беларусь гатова і цяпер узнавіць быўшую блізасьць да Літвы і Прыбалтыкі.

ІІІ. Беларусь, будучы натуральным гінтэрляндам Прыбалтыкі, абладае зусім выстарчаючымі эканамічнымі магчымасьцямі дзеля незалежнага істнаваньня.

Лесавыя багацьця Беларусі (8,9 мільёнаў гэктараў, што становіць 71 акр. на душу) змогуць даць беларускаму скарбу зваротныя суммы дзеля адбудоўкі краю. Рэкі Беларусі, маючыя аграмаднае таргова-прамысловае значэньне для ўсей Усходнай Эўропы чакаюць датасаваньня саліднага капіталу, дзеля выкарыстаньня іх. Тарфяныя багацьця Беларусі, могучыя даць краю да 500 мільёнаў пудоў сухога торфу штогодна, паслужаць, разам з белым вугалем, крыніцай энэргіі дзеля патрэб транспарта і краёвай прамысловасьці.

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі думае, што ні Сав. Расія, ні Польшча ня будуць пратэставаць супроць прызнаньня незалежнасьці Беларусі. Тым больш, што стоючы на прынцыпе прызнаньня права народаў на самаазначаньне, абедзьве памянёныя дзержавы, як сказана вышэй, урачыста дэкляравалі прызнаньне незалежнасьці Беларусі ў Рыжскім трактаце.

Безстаронне абмяркоўваючы пытаньне, трэба думаць, што як Сав. Расія, гэтак сама і Польшча зацікаўляны у прызнаньні незалежнасьці Беларусі Бо дзякуючы прызнаньню незалежнасьці Беларусі, адпадае крыніца несканчоных закалотаў паміж імі.

Ведама, што Расія, які ня быу-бы ў ей лад, ніколі не пагодзіцца з тым, каб на Беларусі, ў пераважаючай большасьці праваслаўнай, панавала польская ўлада. У свой чарод Польшча ніколі ня можа пагодзіцца, каб коштам Беларусі узмацовывалася і сумежыла з ей расійская ўлада. У той-жа час, як ведама, абедзьве стараны годзяцца з думкай аб устанаўленьні на Беларусі нэўтральнай для іх, беларускай ўлады.

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае грунт думаць, што інтэрасы як Польшчы так і Савецкай Расіі дыктуюць ім, каб Беларусь з арэны цяжкога, і, як паказывае гісторыя, бязплоднага для іх змаганьня, абярнулася ў край спакойнай і творчай працы. Дзякуючы прызнаньню Беларусі, устанаўленьня на ей дэмакратычнага ладу і зацікаўленьня ею капітала, разбураны вайной край гаспадарча аздаровіцца, што спрыяйна адабьецца на эканамічным палажэньні яе суседзяў.

У прыпадку прызнаньня незалежнасьці Беларусі можна думаць, што Сав. Расія і Польшча здоляюць аблегчыць свой абцяжаны вайсковымі выдаткамі бюджэт, бо разам з прызнаньнем незалежнасьці Беларусі адпадае для іх патрэба акупацыі захопленых цяпер часьцей Беларусі. Частковае разброеньне абедзьвех дзержаў выяўляецца пры гэтым зусім магчымым.

На аснове вылажанага, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае гонар прасіць Высокую Конфэрэнцыю Дзержаў у Генуі паставіць у програму Конфэрэнцыі пытаньне аб пераглядзе Рыжскага трактату і як вінік адмены яго—прызнаць незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае глыбокае пераконаньне, што прынцыпы міра і справядлівасьці запануюць у пастановах Высокай Конфэрэнцыі і наша Бацькаўшчына ўздыхне супакойна і свабодна пасьля цярпеньняў цяжкой сямілетняй вайны.

**Урад Беларускай Народнай Рэспублікі.**

---

# Пісьмо Патрыарха Тіхона

## Старшыне Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.

З прычыны Вашага ліста ад 14 студзеня г. г. за № 104, маю гонар паведаміць следуючае:

Мэморандум Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі „аб палажэньні Праваслаўнай цэрквы у Беларусі і, галоўным чынам, пад польскай окупацыей“, высланный 27 студзеня мінулага году, у свой час мною атрыманы.

Дзеля асаблівай вагі паднятых у гэтым мэморандуме пытаньняў, ён перададзен быў мною на абмяркаваньне Сьвяшчэннага Сыноду і Вышэйшай Царкоўнай Рады, складаючых пад маім старшынствам і представіцельствуючых увесь біскупат, клір і верных Праваслаўнай Цэрквы.

Пасьля самых сьцІслых абмяркаваньняў, Вышэйшым Царкоўным Упраўленьнем постаноўлена:

1) пазволіць Прэасьвяшчэнным Беларускіх эпархій (Літоўскай, Гарадзенскай, Менскай, Магілеўскай, Полацкай і др.), у выпадку паступленьня ад большасьці парахіян прозьбаў аб ужываньні беларускай мовы у так званым дадатковым богаслужэньні, ў пропаведзях, катэхізацыі і др., пазваляць у тых храмах карыстацца беларускай мовай.

і 2) прапанаваць Прэасьвяшчэнным тых-жа эпархій приступіць, калі акажацца магчымым, да выданьня на беларускай мове пропаведзяў, богагласьнікаў і Новага Завету.

Што датычэ пажаданьня Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі аб замеш-

чаньні біскупскіх катэдраў у Беларусі асобамі, валадаючымі беларускай мовай, то ўцелаісьціць даннае пажаданьня ўжо цяпер не прадстаўляецца магчымым, бо прышлося-бы без павінных прычын змесціць некаторых біскупаў, якія, хоць і не валадаюць беларускай мовай, але з пажыткам працуюць дзеля праваслаўнай справы у Беларусі. Але у той-жа час, прызнаючы паказанае пажаданьне справядлівым, Вышэйшае Цэркоўнае Упраўленьне пастанавіла мець гэтае пажаданьне на ўвазе пры ўсіх пасьледуючых зьмешчэньнях архірэйскіх катэдр у Беларускіх эпархіях.

Павядомленьня вышэйназваным эпархіяльным Прэасьвяшчэнным па вышейпісаных двох пастановах Вышэйшага Царкоўнага Упраўленьня разасланы былі тады-ж гэтым Прэасьвяшчэнным. Прыгатавана была і адповедзь Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, але, за нестачай аказіі, ўчарод ня магла быць адаслана, а пасьля трапіла у лік дакумантаў, апечатаных цывільнай ўладай у быўшым памешканьні Канцэляры Вышэйшага Цэркоўнага Упраўленьня.

Прызываю на ўвесь Беларускі Народ благаслаўленьне Божае і малітвенна жадаю, каб Госпадь узмацаваў яго сілы у абароне інтэрасаў роднай для яго Праваслаўнай Цэрквы.

Прызываю благаслаўленьне Божае і на Вашу працу і на працу ўсяго Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Тіхон, Патрыарха Маскоўскі і усяе Русі.**

---

# Агляд прэссы.

### Чэская прэсса.

Чэская прэсса, ня гледзячы на старэньня мейсцовых беларускіх дзеячоў, у апошні час мала зварачала ўвагі на беларускае пытаньне. Прычына гэтага была ў тым, што паміж Чэхаславакіяй і Польшчай ішлі перагаворы аб саюзе і супрацоўнічаньні Польшчы з Малой Антантай. Чэская прэса баялася закранаць балючае пытаньне аб Беларусі, каб не раздражняць палякаў.

Аднак пасьля некоррэктных выпадаў польскай прэссы проці Чэхаславакіі становішча зьмянілося. „Narodni Listy“ ад 4. III. 22. пачалі кампанію: газэта называе польскую заўзятасьць хвараблівай, а ненавісьць да Чэхаславакіі сьляпой. Пасьля гэтага ўся чэская прэса загаварыла досыць гостра проці палякаў і стала на абарону беларусаў і літвіноў, асабліва ў Віленскім пытаньні.

„Čas“ афіцыоз Ураду ад 5 сакавіка у № 55 пішэ: „У Польшчы вядуць барацьбу два напрамкі — фэдэралісты і анэксыяністы. Пытаньне ідзе аб тым, хто большы вораг Польшчы — немцы ці Расія. Фэдэралісты (гэта галоўна сацыялісты) бачаць ворагаў у Расіі і хочуць забаспечыць Польшчу фэдэрацыей Польшчы з так званымі акраіннымі дзержавамі, быўшай Расійскай Імпэрыі — Беларусьсю і Украінай. Анэксыяністы, рэпрэзэнтаваныя народнымі дэмакратамі бачаць галоўную небаспеку для Польшчы ў Германіі і адкідаюць кождую думку, каб дражніць Расію і яе аслабляць. Яны стаяць за безварункову згоду з Расіяй“.

Гострая барадзьба паміж гэтымі двума табарамі выклікала ужо некалькі разоў на падставе Віленскага пытаньня, пасьля афэры Жэлігоўскага, непаразуменьня, ня гледзячы на тоя, што абодвы кірункі стаяць за прылучэньне Віленшчыны да Польшчы.

Газэта „Čas“ бачыць правідловае вырашэньне пытаньня ў аўтаноміі Віленшчыны і думае, што голас анэксыяністаў — ёсьць голас крычачага ў пустыні, тым барджэй што за фэдэралістамі стаіць сам Начальнік Панства Пілсудскі, вага якога дасьць перамогу фэдэралістам у іх змаганьні.

„Tribuna“ ад таго-ж чысла у № 55 надта гостра выступіла супроць Польшчы, дзе гаворыць, што авантура Жэлі-

гоўскага на „ўласны рызык“ пад націскам ваяўнічых элемэнтаў Польшчы, зусім ня лічылася з беларускім, літоўскім і жыдоўскім грамадзянствам і не хацела і чуць у сваей авантуры аб Віленскім пытаньні.

Жэлігоўскі кіраваў накшталт сярэднявечных рыцараў і ня слухаўся прэдстаўнікоў вялікіх дзержаў. Рэжым быў куды больш жорсткі, чым пры Расіі. Як душыліся беларусы і літвіны можна бачыць з тых пратэстаў, якімі была ў поўным значэньні гэтага слова, затопляна Эўропа. Жыцьцё гэных народаў неміласэрна душылася і жыхарства ня мела магчымасьці і сілы працівастаць дыктатуры. Гэтым у Варшаве былі здаволяны. Знешня прыкідаліся, што не было сілы процівастаць Жэлігоўскаму, а ўнутры згаджаліся і выслаўлялі іх як нацыянальных гэрояў. Таксама як і ў Галічыне сьпешаліся паставіць Эўропу перед фактам і Віленшчына невядома як папала ў межы Польскай Дзержавы. За трэцім разам у Сілезіі з Корфантым трохі сарвалася. Фальшывая ігра палякаў выйшла на зне, але усё-ж такі Корфанты памог польскай справе. Народу польскаму і яго павадыром гэта падабалася, іх абдарылі багацьцём і славай. Інакш на Жэлігоўскага і ўсіх іншых глядзела заграніца.

Міністр польскі загранічных спраў Сапега бачыў, як хутка падала папулярнасьць Польшчы на захадзе і якія кепскія гаспадарскія вынікі мае для Польшчы новая гэройства хваленых авантурыстаў. Аднак перасьцярогі Сапегі былі палічаны слабасьцю і ня мелі вагі нават у парлямэнтарных кругох.

Скірмунт, прыйшоўшы на зьмену Сапегі, быў таксама пераконаны ў шкоднай польскай палітыцы, але ня меў уплыву на развіцьце падзей — выбары ў Віленскі Сойм 8 студзеня 1922 г.

Гэтага галасаваньня ня вызналі беларусы, літвіны і жыды па-перш таму, што яны адбываліся насупар пастанове Лігі Нацый і міжнароднага права, падругоя, што польская адміністрацыя не дала магчымасьці працівапольскай большасьці жыхарства падгатавацца да выбароў. Галасаваў незначны % польскага жыхарства, які згодна рэзультатам выбароў, выслаў сваіх прэдстаўнікоў у так званы Віленскі „Сойм“.

Разумееецца, што Сойм склаўся з адных палякаў і ім ня трэба было вясьці барацьбы з большасьцю жыхарства ў гэным Сабраньні.

Віленская ганьба саслужыла кепскую службу палякам за граніцай і Польскі Урад імкнецца прыкрыць яе тым, што дае статут аб аўтаноміі.

Віленскі „Сойм“ выяўляў юрыдычныя формы сваіх узаемаадносін да Польшчы інвчэй. „Сойм“ 27. II. 22 вынес рэзалюцыю, ў якой прызнае тры магчымыя спосабы сваей ліквідацыі: або „Сойм“ сам распусьціць сябе, або гэна вырашыць Варшаўскі Сойм, або ён прападзе як рэзультат выбароў у Дзержаўны Варшаўскі Сойм, назначэньня якога патрэбуюць Віленскія палякі.

Галоўным жаданьнем „Сойму“ усё-ж такі было безварункавае і простае прылучэньне Віленшчыны да Польшчы.

2-га лютага павінна было адбыцца урачыстае сьвята праклямаваньня гэтага прылучэньня.

Мізэрная польская меншасьць у Віленшчыне згубіла-б сваю вагу пры аўтаноміі і таму адмовілася падпісаць акт.

Павадыры польскай палітыкі ня выкарысталі свайго уплыву і не зрабілі таго, чаго вымагаў ад іх момант і міжнародная сытуацыя. Гэта трэба было зрабіць, калі Польшча не баіцца згубіць аблічча Эўрапейскай Дзержавы.

„Narodni Politika“ 5. III. 22 ў № 64 пішэ: „Трэба ведаць, што Віленскі Сойм складаецца толькі з палякаў. Беларусы, літвіны і жыды ў ім не маюць удзелу. Ковенскі Літоўскі Урад пратэстуе і ссылаецца на Сувальскую умову з Польшчай, дзе Віленскі край прызнаецца за частку Літоўскай Рэспублікі.

Але польскі гэнерал Жэлігоўскі 9 кастрычніка 1920 г. заняў Вільню, з якім тады Польскі Урад не хацеў нібы-то

мець нічога супольнага і адмаўляўся ад яго перад Антантай.

З гэтага паўсталі рожныя непрыемнасьці, а пасьля пастанавілі, што ўсё маюць вырашыць выбары у Віленшчыне. А так як палякі зьявіліся панамі ў Віленскім Сойме, то прагаласілі тое, чаго хацелі. Начальнік Панства Пілсудскі быў за фэдэрацыю, але Віленшчына утварыла аўтаномную частку Польшчы.

Англія і Францыя былі проці прылучэньня Віленшчыны да Польшчы і ў гэтай справе на тых днях францускі прэдстаўнік быў у п. Пілсудскага.

Пілсудскі знаходзіцца ў цяжкім становішчы паміж пажаданьнямі польскіх нацыаналістаў і прапазыцыямі прыяцелёў з Парыжа.

Канчае газэта так: „будзем чакаць, што Польшча наперад распазнае сягоняшнюю сытуацыю і не будзе дарэмна сваімі імпэрыялістычнымі жаданьнямі (так як і Яворын) затрудняць наша палажэньня“.

Папрыка.

---

## „Rzeczpospolita“ аб сваіх крэсах.

„Rzeczpospolita“ сьцьверджае не зусім вясёлае становішчэ палякоў на навабытых крэсах (№ 67, 8. III.)

„Польшча, спаганяючы на Усходніх Назьмежжах (Kresach) часьць сваіх даўных зямель, знаходзіць на іх жыхарства, якоя паўтара сталецьця было пад чужым уплывам і забылася аб сваей сувязі з Рэчыпаспалітай. Апошнімі часамі разьвілася на гэтых назьмежжах варажая Польшчы агітацыя за бальшавіцкія або нямецкія грошы, пабуджаючая непрыхільнасьць да польскіх калёністаў на аснове клясовай заздрасьці і ненавісьці.

Асяродкі польскай культуры у Навагрудзкім павеце, вядомыя з „Пана Тадэўша“, сталіся зьнішчанымі навалай бальшавіцкай і доўгатрываўшай нямецкай окупацыяй. Многа памешчыкаў пакінулі двары і дагэтуль не вярнуліся. Мястэчкі з прычыны нестачы зносін з Захадам ня могуць нормальна разьвівацца і падпадаюць, як і сама Вільня, пад ўплыў жыдоў. Польская маемасьць гэткім чынам корчыцца, а на прыпадак спрыяйнасьці антыпольскай агітацыі на грамадзкім падложы, ўвесь гэты край падлегае набаспецы сэпаратных імкненьняў беларускага жыхарства.

Трэба ратавацца і дзеля гэтага:

„Перасяленства польскае на ўзьмежжах становіцца неабходным варункам утрыманьня гэтых зямель пад Польшчай. Замацаваньне тэрыторыальнай сувязі польскай Вільні з мацёрай Польшчай і абарона Польшчы ад безпасярэднага стыку з Расіяй. Вузкі пояс зямлі, сягаючый да польскіх Інфлянтаў, павінен станавіць абаронны вал супроць заліву Расіі немцамі, што спрыяла-бы атыгранцы немцаў перад Эўропай“.

Але перасяленства па думцы газэты з бяды ня збавіць. І дзеля гэтага яна шукае больш сурьёзных захадаў. Збавеньнем ад небаспекі занепаду краю і развалу сувязі з Польшчай можа служыць добрасуседзкае жыцьцё з беларусамі. Вось як ружова малюецца гэтае сужыцьцё:

„Наўздоўж сталецьцяў народнасьць беларуская пад польскім панаваньнем вучылася шанаваць польскае імя і тожсаміла польскасьць з панскасьцю, затайным ідэалам элеганцыі і полеру, які пацягаў і ўзбуджаў пашану. У гэты спосаб польскае нацыанальнае жыцьцё здабывала сілы на Беларусі, падобна як і на Чырвонай Русі.

Бо хоць сама гістарычная Польшча брала свае сілы з Літвы, Паморья і Русі, але ў той час служыла не адным палякам, а так сама усім народнасьцям, якіх бараніла перад заборчасьцю нямецкай і маскоўскай. Беларусь адарваная ад Польшчы падпадзе пад Маскву і ўтраціць сваю правінцыяльную асобнасьць, бо дух

Масквы ня ёсьць духам шануючым народныя асобнасьці. Беларусь у сувязі з Польшчай, выдасьць многа знамянітых палякаў, але астанецца Беларусьсю і заўсёды будзе мецць спрамогу самаістага разьвіцьця калі толькі будзе мецць духовыя сілы дзеля гэткага разьвіцьця: — творчасьць якая зможэ лепей выславіцца па беларуску чым польску. Адна ненавісьць і заздрасьць не перэтварае неразьвітыя народнасьці ў незалежныя нацыі.

Узмацаваньня польскага прэдстаўніцтва на Беларусі важна ня толькі для Польшчы, але і для Беларусі, якія ешчэ аб гэтым ня ведаюць. У сутычнасьці з Польшчай, у сувязі з ей, адзіная для іх спадзея волі і самаістага разьвіцьця. Іначы пагражае ім утрата ўсякай адасобленасьці і самаістасьці пад дэспатычнай, цэнтралістычнай ўладай Масквы, так сама небаспечнай для іншых народаў, калі ей кіруюць радыкальныя рэвалюцыянеры, як і тады калі наступіць царская рэакцыя. Зьмены урадаў ня могуць зненацна зьменяць характару нацый. Маскалі і жыды, не маючы свайго нацыянальнага жыцьця, толькі адзіна жыцьцё дзержаўнае, або салідарнасьць племянную, ненавідзяць сілы духовыя злучаючыя і асымілюючыя розныя першапачаткі племянныя ў супольным нацыанальным жыцьці. Гэткае жыцьцё Палякі знаюць і дзеля гэтага шануюць асобнасьці народаў Рэчыпасполітай гэтак крэпка, што ніколі не сцігавалі мовы ці веры розняпляменных грамадзян сваей дзержавы“.

Вельмі характэрная аргумантацыя беларусафобаў з „Rzeczpospolitej“. Відаць блага наўзьмежнаму ваўку, калі ён з агідай пачынае лезьці у лісячую скуру і прыкідацца... „прыхільнікам беларусаў“. Відаць перэканаўся кат, што ўжо нешта не так, як за часу прыгону: і сіла яго не тая і ахвяра яго не тая.

Ніхай пачэкае — яшчэ ў большым пераканаецца.

———

## „Звезда“ аб беларусах Віленшчыны.

Падаючы сваю апінію аб віленскай справе, менская расійская газэта „Звезда“ карыстае мачымасьцю сказаць пару слоў аб віленскіх беларускіх дзеячах. Тон мэнтарскі, як і прыстойна афіцыозу менскай камуны, „штыль“ пісьма велягорны, провідэнцыйнасьць Касандры:

> „Літоўскія і Беларускія нацыаналісты нязгодны з вынікам віленскіх падзей: ім не падабаецца канец віленскай камэдыі, яны супроць гэтага пратэставалі, самаадзелам ад выбараў. Але яны пагодзяцца. Можна ўжо наперад сказаць, што з „разьвязкай“ віленскага пытаньня непрыхільныя адносіны паміж Літвой і Польшчай заменяцца ў больш „прыязныя“...
>
> А віленскія беларускія нацыаналісты, гэты балтуны і пустамолы, гэты людзі бяз стырна і бяз ветразей, ніяк ня могучыя павярнуць свaей калянай шыі на ўсток, даўно прадаўшыя сваю „бацькаўшчыну“ і яны палезуць у польскую орыентацыю, пабрыдуць за панам Аляксюком, а тыя, хто не захоча гэгага зрабіць, — мы мяркуем, што гэткіх будзе вельмі мала, — не па сваей волі „пойдуць па сьвеце шукаць дзе ёсьць абражанаму пачуцьцю прыпынак“.

Агульна кажучы атэстацыя нішто; можна спадзевацца, што „да сьценкі“ адразу не павядзе. (Усё робіцца спаволі). Але нас цікавяць некаторыя бязсэнсіцы. Па першае — хто з віленскіх беларусаў прадаў сваю „бацькаўшчыну“: дзе, калі і каму? Чаму Бацкаўшчына ўзята ў чужаслове? І што гэта за такі „прыпынак“, які будуць шукаць віленскія беларусы не па сваей волі? Калі пад прыпынкам разумець Лукішкі, ці Домбе — дык німа чаго шчырыць зубы — здаецца нічога вясёлага німа. А калі пад „бацькаўшчынай“ разумець вотчыну п. Кнорына дык тады адразу усё ясна!

Нашы паважаныя віленскія тавары́шы не патрабуюць нашай абароны прад правінцыанальнымі борздапісцамі „Звезды“; але сяброўскую раду мы мі

падаць хочам. Не бярыця прыкладу з інтэрнацыянальнай гусінай шыі паноў з пад цёмнай „Звезды“, што павертаецца і на Усход і на Захад, і на Маскву і на Генную і на кішэнь буржуя і на Нэпо. Ніхай гэтая шыя застаецца прывілеям тых, хто мае добры нюх і любіць слухаць начальства. Не схіляйця сваей чалавечай шыі і беларускай нацыанальнай галавы ў усходні бок — там знойдуць спосабы прышчаміць яе акуратна. Не шукайця па сваей волі прытулку ў прасторных сялібах менскага вотчэньніка — гэты куток, верця нам, ніяк ня лепшы за Кракоўскі.

---

### Губэрнатара назначылі.

Вядомы ў Менску грамадзкі дзеяч Ванштэйн (б. „Бунд“), які да апошняга часу быў старшынёй мэнскага совнархозу, пераведзян у Башкірыю на пасаду... Старшыні Рады Народных Камісараў. Да моманту прыбыцьця свайго ў Маскву, адкуль атрымалася назначэньне, п. Ванштэйн ня ведаў, куды яго ласьне ськівуюць, як аб гэтым сам прызнаўся на адным з развітальных банкетаў: „Если Ц. К. снимает (?) меня отсюда и доверяет мне другой пост (а я не знаю еще какой), то я рад исполнить приказание“ („Звезда“ № 36).

Усё гэта вельмі добра. Толькі прычым тут так званыя „незалежныя і аўтаномныя фэдэратыўныя рэспублікі“?

### Ген. Брусілаў аб заслугах бальшавікоў.

„Я лічу, што бальшавікі, сьвядома або несьвядома — ня ведаю, зрабілі вялікую справу ў тым сэнсе, ў якім я яе разумею, г. зн. не далі даканчальна разпасціса ей, нашай многапакутнай Расіі на дробныя часткі, і, за выключэньнем некаторых наўзьбярэжжаў, злучылі распадаўшыяся ўжо часьці. Лічу гэта вялікай дзержаўнай справай. У выніку прапаганды ідэі Інтэрнацыонала Савецкі Урад, на маю думку, змацаваў у рускіх людзёх нацыанальную сьвядомасьць і падняў патрыатычны дух, якога ў іх, на сорам нам, было так мала“. (Новый Мир).

---

### Расшырэньне фэдэратыўных правоў?

„Савецкая Беларусь“ у № 30 ад 8 лютага паведамляе, што паміж урадамі С. С. Р. Б. і Р. С. Ф. С. Р. падпісана 19 студзеня гэтага году „умова аб далучэньні С. С. Р. Б. да фэдэратыўнага Камітэту па зямельнай справе“. З пададзеных трох артыкулаў умовы мала што можна угледзіць і нават ня можна зразумець якую мэту ён цікуе: ці разшырыць фэдэратыўныя правы Беларусі, ці абмежыць іх.

---



